незалежная газета

№ 2 (696) 12 студзеня 2011

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



**Што рабіць, калі вас выклікалі на гутарку пра Плошчу**

Старонка 9



**Сэксіст года-2010**

Старонка 5



«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Канфуз Мартынава

У Брусэлі з міністрам замежных справаў Беларусі адмовіліся сустрэцца.

Весткі аб рэзкім пагаршэнні адносінаў з Еўрасаюзам устрывожылі кіраўніцтва Беларусі. 8 студзеня расійскае інфармацыйнае агенцтва РІАН паведаміла са спасылкай на ўласныя крыніцы ў Брусэлі, што паслы краін ЕС распачалі фармальную працэдуру аднаўлення санкцый супраць лукашэнкаўцаў. Такую рэакцыю выклікалі «выбары» 19 снежня і арышт лідараў апазіцыі пасля іх.

У панядзелак 10 студзеня міністр замежных справаў Беларусі Сяргей Мартынаў тэрмінова вылецеў у сталіцу Еўрасаюза. Крыніцы ў Брусэлі паведамлялі, што беларускі чыноўнік прасіў аб сустрэчах з кіраўнічкай дыпламатыі ЕС Кэтрын Эштан і еўракамісарам па пытаннях пашырэння і палітыкі добрасуседства Штэфанам Фюле.

Паведамлялася, што раней Мартынаў нефармальна сустракаўся з Фюле ў Празе.

**Працяг на старонцы 3.**



# Санкцыі: няўжо Еўропа ўдарыць па беларускай нафтахіміі?

«Просьба да ўсіх далучыцца да акцыі па тлумачэнні еўрапейцам неабходнасці эканамічных санкцый супраць рэжыму. Самым важным і хваравітым месцам для «луканомікі» з'яўляецца экспарт прадуктаў нафтахімічнай вытворчасці, які складае ад 40 да 60% паступленняў у бюджэт. Эмбарга на ўвоз у Еўрасаюз нафтапрадуктаў з Беларусі дазволіць забіць двух зайцаў адразу. Гэта выкліча банкруцтва рэжыму Лукашэнкі ўжо праз 2—3 месяцы. Па-другое, Лукашэнка стане канчаткова непатрэбны расійскім алігархам, якія зарабляюць на «шэрых» пастаўках нафты праз беларускі афшор. Ім прыйдзецца шукаць новага перапрацоўніка і пасярэдніка». Працытаваная заява разляцелася па інтэрнэце. Яе перадрукавалі сотні, калі не тысячы блогераў і карыстальнікаў фэйсбука.

Аўтар закліку — журналіст Уладзімір Чудзянцоў, але пад такой праграмай падпісаліся б многія прыхільнікі радыкальнага вырашэння сітуацыі. Яны мяркуюць, што прымусіць Лукашэнку паважаць людзей і іх свабоды можна, толькі пахіснуўшы трываласць беларускай эканомікі.

**Працяг на старонцы 4.**



**Замест «Выбару» з Дарафеевым АНТ запускае новае ток-шоу**

**Вядучым стане Думбадзэ, які дыскрэдытаваў Дарафеева ў вачах Лукашэнкі. Старонка 2.**

Узятыя на смерць павінны жыць. Верш Рыгора Барадуліна. **Старонка 12.**





**Аўтастопам ад Нью-Ёрка да мыса Горн. Гватэмала-нелегал**

**Падарожны дзённік Аўгіні Манцэвіч. Старонка 10.**

# Замест «Выбару» з Дарафеевым АНТ запускае новае ток-шоу



**У 2010-м Дарафееў заваяваў прэмію «Тэлеваршыня».**

**Вядучым стане Тэнгіз Думбадзэ, які дыскрэдытаваў Сяргея Дарафеева ў вачах Лукашэнкі.**

Ужо ў канцы студзеня тэлеканал АНТ збіраецца паказаць новае грамадска-палітычнае ток-шоу замест апальнага «Выбару». Назва перадачы пакуль што невядомая, але названыя імёны вядучых — Тэнгіз Думбадзэ і Вячаслаў Бандарэнка. «У працэсе падрыхтоўкі можа здарыцца так, што нехта не цягне на ролю вядучага, тады будзем думаць над іншымі кандыдатурамі», — заявіў кіраўнік канала Рыгор Кісель. Бандарэнка — вядучы музычных праграм на радыё АНТ.

Пра Думбадзэ вядома, што ён з'ехаў з Грузіі пасля прыходу да ўлады Міхаіла Саакашвілі, а на канале працаваў кіраўніком творчай групы праграмы «Дыханне планеты». Дарэчы, падчас расійска-грузінскага канфлікту тэлевізіёншчык працаваў спецыяльным карэспандэнтам АНТ на месцы падзей.

Момантам сумнеўнай славы для Думбадзэ стаў скандальны выпуск ток-шоу «Выбар», прысвечаны вынікам прэзідэнцкіх выбараў. Тады вядучы Сяргей Дарафееў не пабаяўся задаваць смелыя пытанні Лідзіі Ярмошынай. У прыватнасці, ён спытаў у Ярмошынай, ці бачыла яна ролік, у якім у тэхнікуме куратарка адной з груп патрабуе ад навучэнцаў з'явіцца на датэрміновае галасаванне і ці з'яўляецца такая сітуацыя парушэннем заканадаўства. «Так, гэта парушэнне», — адказала Ярмошына. «Дык значыцца, выбары прайшлі з парушэннямі?» — падлавіў яе Дарафееў. У выніку Лідзія Ярмошына дэманстратыўна пакінула студыю.

Думбадзэ тым часам крытыкаваў вядучага за занадта вострыя пытанні, а на наступны дзень на прэс-канферэнцыі нагадаў Лукашэнку пра перадачу. У выніку кіраўнік дзяржавы назваў Дарафеева «хлопчыкам-журналістам, якога трэба паставіць на месца». Па «выпадковым» супадзенні на вызваленае месца фактычна паставілі самога Думбадзэ.

Што да лёсу апальнага Сяргея Дарафеева, то ён быў адпраўлены ў «творчы адпачынак». Прэс-служба канала АНТ паведамляе, што вядучы не звольнены і ягоныя перадачы не закрытыя. Тым не менш, ад калег Дарафеева стала вядома, што ён атрымаў прапанову адмовіцца ад выхаду ў эфір і застацца «ідэйным натхняльнікам» праграмы «Наше утро». Вядучы, якога лічылі адным з самых прафесійных супрацоўнікаў Беларускага тэлебачання, мае шэраг прапаноў працаўладкавання ў Расіі.

З самім Дарафеевым звязацца не ўдалося.

**Віталь Несцераў**

# Таццяна Елавая: Правакатары маглі быць наймітамі спецслужбаў

**Грамадская актывістка, якая каардынуе незалежнае расследаванне абставінаў правакацыі 19 снежня, адказала на пытанні «НН».**



**«Наша Ніва»: Вы зрабілі тытанічную працу па пошуку правакатараў, якія білі шкло ў дзвярах Дома ўрада. Якія мэты Вы ставілі перад сабой? Расплюшчыць вочы грамадству, працістаяць хлусні, дапамагчы арыштаваным ці штосьці яшчэ?**

**Таццяна Елавая:** Калі пошук пачынаўся, я не была ўпэўнена, што правакацыя сапраўды існавала, што гэта не супадзенне абставінаў.

Аднак пасля аналізу фактaлагічнага матэрыялу, у тым ліку аўдыёзапісаў перамоваў сілавых структураў па рацыі, відавочна, што 19 снежня ў цэнтры Мінска ўладамі была праведзеная спецаперацыя, якая ўключала ў сябе элемент правакацыі штурма Дома ўрада.

Мэта правакацыі — дыскрэдытацыя мірнай акцыі пратэсту і легітымацыя жорсткіх рэпрэсій супраць апазіцыі. Наіўна думаць, што ўлады прыслухаюцца да нашых доказаў невінаватасці людзей, якім ужо выстаўленыя абвінавачанні ў арганізацыі масавых беспарадкаў. Але гэта можа нейкім чынам паспрыяць вызваленню хаця б часткі з іх. Асабліва важным робіцца міжнародны розгалас акалічнасцяў справы.

**«НН»: Пра людзей, засланых уладамі на акцыі апазіцыі, кажуць «людзі ў штацкім», ці «ціхары». Ці ўдалося высветліць, да якой структуры адносяцца тыя, хто біў шкло? І колькі правакатараў было агулам?**

**ТЕ:** Каля дзевяці чалавек, лічбы ўдакладняюцца. Хачу падкрэсліць, што адмыслова не называю іх «ціхарамі», а менавіта правакатарамі. «Ціхары» — людзі, якія традыцыйна прысутнічаюць на ўсіх апазіцыйных акцыях. Гэта штатныя супрацоўнікі МУС альбо, радзей, КДБ. Іх няцяжка вылічыць — звычайна чорная вопратка, кароткія фрызуры, тыповыя выразы твараў.

Што ж тычыцца правакатараў, якія пачалі біць шкло ў Доме ўрада, іх дзеянні, выгляд, спосабы каардынацыі, узровень прафесіяналізму адрозніваюцца. Пакуль незразумела, да якой сілавой структуры яны маюць дачыненне. Гэта маглі быць найміты, а не штатныя супрацоўнікі.

Але ізноў-такі, грунтуючыся на аўдыёзапісах, мяркую, што гэта справа рук менавіта беларускіх спецслужбаў.

**«НН»: Ці нехта з названых «правакатараў» звязваўся з вамі, расказваў, што ён невінаваты і прасіў выдаліць інфармацыю пра яго?**

**ТЕ:** Так, на жаль, было некалькі прыкрых выпадкаў. Яшчэ раз прашу прабачэння ў людзей за тое, што іх агаварылі. Гэта часткова можна патлумачыць праз атмасферу энтрапіі, якую мы мелі ў першыя дні пасля разгону акцыі, а таксама тым, што другая хваля правакацыі ўсё ж спрацавала і дэманстранты пачалі ламаць дзверы. Было цяжка адрозніць «нашых» ад «ворагаў».

**«НН»: Прадстаўнікі КДБ, міліцыі ці пракуратуры не прасілі падзяліцца матэрыяламі, каб знайсці вінаватых?**

**ТЕ:** Не, з падобнай просьбай афіцыйныя асобы не звярталіся. Але неаднаразова звярталіся невядомыя, якія, мякка кажучы, «прасілі» прыбраць гэтыя матэрыялы і не займацца падобнымі справамі ў далейшым. Іх просьба не будзе выканана.

**«НН»: Калі гара не ідзе да Мухамеда, Мухамед ідзе да гары… Можа, варта прынесці сабраную інфармацыю ў праваахоўныя структуры?**

**ТЕ:** Думка аформіць матэрыялы належным чынам і перадаць іх у міліцыю і ў суд з'явілася даўно. У гэтых матэрыялах таксама зацікаўленыя і адвакаты нашых сяброў, якія цяпер у следчым ізалятары КДБ. Пакуль мы з паплечнікамі збіраем фактaлагічную інфармацыю, правяраем і ўдакладняем звесткі, пры гэтым асобны акцэнт робім на аналізе аўдыёзапісаў перамоваў сілавікоў (пазыўныя, каардынацыя між рознымі структурамі і г.д.) і супастаўленні іх з падзеямі, што адбываліся ў той момант на плошчы.

Гэта вельмі вялікі аб'ём працы, і кошт памылкі надта высокі, таму не варта спяшацца з катэгарычнымі высновамі. Як толькі будзем мець належным чынам падрыхтаваны матэрыял, ён будзе прадстаўлены грамадскасці. 12 студзеня ў Брусэлі плануецца правядзенне спецыяльнага слухання па Беларусі. Беларускімі дзеячамі будзе прадстаўлены вялікі даклад наконт вынікаў выбарчай кампаніі, у тым ліку падзеяў 19 снежня. Думаю, частка матэрыялу будзе гатовая да гэтай даты.

**Гутарыў ВН**

**Таццяна Елавая**

грамадская актывістка. У апазіцыі з 2000. Была адным з арганізатараў намётавага гарадка на Кастрычніцкай плошчы пасля выбараў 2006. Вядзе папулярны блог — zmagarka.livejournal.com. З прычыны крымінальнага пераследу жыве ў Вільні (Літва). Паводле адукацыі філосаф, навучаецца ў магістратуры ЕГУ на праграме «Публічная палітыка». Рэдактар рэсурсу «Belintellectuals.eu: Інтэлектуальная супольнасць Беларусі».

### Самае чытанае на nn.by за 5—11 студзеня

- Унікальнае відэа разгону Плошчы захавалася ў ізалятары
- БТ паказала, што тысячы маніфестантаў былі гатовыя скідаць Лукашэнку
- Што рабіць, калі вас выклікалі «пагутарыць пра Плошчу»
- Дыктатары таксама плачуць. Лукашэнка — пад песню «Саня останется с нами» — відэа
- Выгляд зверху. Новае ўнікальнае відэа разгону Плошчы
- Як турма на Акрэсціна выглядае знутры (фоты)
- WikiLeaks: Чорны нал для беларускай дэмакратыі
- «Бачылі б Вы твар следчага, калі я сказала, што я ў БРСМ»
- Як Пачобута ў КДБ спрабавалі разгаварыць
- Плакаты на заводзе: «Ганьба! Ён быў на Плошчы!» Прыпіска ад рабочых: «Герой!»

# Абвінавачаных более

31 чалавеку прад'яўленыя абвінавачванні ў «беспарадках» 19 снежня.

Яшчэ двое вязняў «амерыканкі» выйшлі на волю. Калядны падарунак зрабілі двум лідарам Аб'яднанай грамадзянскай партыі — юнаму Алегу Корбану і былому прарэктару БДУ Анатолю Паўлаву.

Калі Корбан пагадзіўся адказаць на пытанні «НН», то Паўлаў палічыў за лепшае не даваць ніякіх каментароў да сканчэння следства. У абодвух падпіска аб нявыездзе з краіны і аб неразгалошванні справы.

Затое суд Цэнтральнага раёна сталіцы адхіліў скаргу аб змяненні меры стрымання былога кандыдата Уладзіміра Някляева. Пісьменніка таксама прасілі вызваліць на ўмовах нявыезду, але суддзя адмовіў, бо «Някляеў абвінавачваецца ў асабліва цяжкім злачынстве».

### Дзе Міхалевіч?

Калі з іншымі кандыдатамі існуе хоць нейкая яснасць, то сляды Алеся Міхалевіча на пэўны час зусім згубіліся.

Яшчэ перад Раством яго быццам бы перавялі ў СІЗА на Валадарскага. Чаму туды? Няясна. Магчыма, кадэбістаў ён перастаў цікавіць. Яшчэ кандыдату адмовілі ў спатканні з жонкай Міланай.

Тым не менш, ужо праз пару дзён Міхалевіча зноў некуды перавялі. Але не сказалі, куды менавіта. Цэлы панядзелак і аўторак жонка палітыка і адвакат шукалі яго ў розных турмах. Нарэшце знайшлі — ізноў у СІЗА КДБ.

Цікава, калі «віну» іншых кандыдатаў на БТ неяк растлумачылі, то пра Міхалевіча абсалютна адмоўчаліся. Нібыта і не арыштаваны такі палітык.

Выглядае, што Міхалевіч адмовіўся «супрацоўнічаць» са следствам, пісаць «пакаянне» на імя Лукашэнкі, за што і атрымаў пакаранне.

Міхалевіч нават не заклікаў на Плошчу ў сваіх тэлевыступах і не выступаў з трыбуны Плошчы, і, тым не менш, сядзіць. Выглядае, проста за тое, што ён апазіцыйны.

Нялёгка прыходзіцца ягонай жонцы Мілане, у якой двое дзяцей, прычым меншай дачцэ ўсяго годзік.

### Дашкевіча не адпускаюць

Мінімальная інфармацыя прыходзіць ад Міколы Статкевіча. Адвакат пакуль меў толькі адно спатканне з кандыдатам.

Нават нельга з дакладнасцю сказаць, ці працягвае ён галадоўку.

Маці Паўла Севярынца Тацяне заявілі, што сустрэцца з сынам яна зможа не раней, чым праз месяц.

Лідару «Маладога фронту» Змітру Дашкевічу і ягонаму паплечніку Эдуарду Лобаву таксама прад'явілі абвінавачанне. Хлопцаў абвінавачваюць у хуліганстве з прымяненнем зброі ці другіх прадметаў, што могуць выкарыстоўвацца як зброя.

Санкцыя, паводле гэтага артыкула, ад трох да дзесяці гадоў. Маладафронтаўцаў утрымліваюць у Жодзінскім СІЗА.

Супраць каго хуліганства — невядома. Дашкевіча і Лобава затрымалі яшчэ ўранку 19-га, да пачатку ўсіх падзей.

### Трыццаць адзін абвінавачаны

Тым часам з'яўляюцца новыя падазраваныя і абвінавачаныя з ліку простых людзей.

6 студзеня ў рэдакцыю «НН» з Барысава патэлефанавала маці былога «зуброўца» Аляксандра Малчанава. Яна і паведаміла пра арышт сына, якому адзелі на рукі кайданкі і вывелі з хаты. Перад гэтым у хаце правялі ператрус. «На Плошчу Саша паехаў як сумленны чалавек», — Галіна Андрэеўна скардзіцца, што пры арышце ў хаце выбілі дзверы.

Малчанава падазраюць не толькі ва ўдзеле ў акцыі, але і ў абразе дзяржаўнай сімволікі. Маўляў, нехта ў Барысаве замяніў чырвона-зялёныя сцягі на бел-чырвона-белыя.

Не вярнуўся з допыту ў КДБ актывіст «Гавары праўду» Павел Вінаградаў. Ён ужо некалі праходзіў па крымінальнай справе «Працэсу чатырнаццаці».

Ілля Васілевіч пасля адбыцця адміністрацыйнага арышту быў адлічаны з Політэхнічнага каледжа. Хлопца запрасілі ва ўстанову падпісаць дакументы, але там яго ўжо чакалі супрацоўнікі КДБ, якія адвезлі Васілевіча ў «амерыканку».

Аляксандр Квяткевіч знаходзіцца ў СІЗА на Валадарскага. Хлопца забралі з дому пад прыкрыццём, што яму трэба здаць адбіткі пальцаў.

Стала вядома, хто такі Аляксандр Федаркевіч. Гэта 49-гадовы прараб з Мінска. Федаркевічу ўжо прад'явілі абвінавачанне. Па стане на аўторак абвінавачанні прад'явілі 31 чалавеку.



Каля турмы ў Мінску.

### Даверaныя асобы Саннікава за мяжой

Падазраваным у справе аб «беспарадках» з'яўляецца таксама ахоўнік Андрэя Саннікава Леанід Навіцкі. Дома ў яго правялі ператрус.

Аднак Навіцкі разам з двума даверанымі асобамі Саннікава — Змітром Бародкам і Андрэем Бародкам — паспелі выехаць у Варшаву.

Некалькі малодых лідараў, як Вячаслаў Дзіянаў («Рух будучыні») і Мікіта Красноў («Вольная моладзь») выехалі на тэрыторыю Расіі, а ўжо потым — у Вільню.

Супрацоўнікі КДБ чакалі ў мінскім аэрапорце і рэжысёра «Свабоднага тэатра» Мікалая Халезіна разам з жонкай Натальяй Калядой. Але не дачакаліся. Халезін пакінуў краіну абходнымі шляхамі. Цяпер ён разам з сям'ёй у ЗША.

Нарэшце, на гэтым тыдні жонкі Уладзіміра Някляева і Змітра Бандарэнкі ініцыявалі пачатак збору подпісаў аб вызваленні вязняў. Праўда, пакуль гэтая з'ява не набыла масавага характару.

**Зміцер Панкавец**

## Алег Корбан: Лісты Лукашэнку не пісаў, інтэрв'ю БТ не даваў

7 студзеня з «амерыканкі» выйшаў сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Алег Корбан**.



**«Наша Ніва»: Алег, на падставе чаго Вас вызвалілі?**

**Алег Корбан**: Выпусцілі на ўмовах падпіскі аб нявыездзе і неразгалошвання таямніцы следства. Я зразумеў, што на такіх самых умовах, як Рымашэўскага і Дзмітрыева. Забаранілі нават каментаваць умовы ўтрымання, якія цяжка назваць здавальняючымі. Днём выклікалі, сказалі, каб збіраўся. Чаму вызваляюць, не паведамілі.

**«НН»: Можа, таксама пісалі ліст на імя Лукашэнкі?**

**АК**: Не, не пісаў. І нават ніхто не прапаноўваў. На БТ таксама інтэрв'ю не даваў. Я ўдзельнічаў у дачы паказанняў некалькі разоў. На пытанні, што тычыцца мяне, адмаўляўся адказваць. Праходзіў допыт на паліграфе, што ніякага дачынення да біцця вокнаў я не маю. Следчы паводзіў сябе больш-менш спакойна, ніякіх наездаў на мяне не было.

**«НН»: А як Вас затрымалі?**

**АК**: Пасля сканчэння Плошчы. У раёне Нямігі. Мы ўжо спускаліся ў метро, калі на нас ззаду накінуліся людзі ў форме. Спачатку даставілі ў пастарунак, а ўжо потым — у «амерыканку».

**«НН»: Можа, бачылі ў турме яшчэ каго з арыштаваных?**

**АК**: Не. Там такая сістэма, што ты нікога не бачыш. Нават калі вядуць на допыт, то згінаюць уніз. Бачыш толькі вартаўнікоў і людзей, што праводзяць допыт.

**«НН»: Лісты даходзілі?**

**АК**: Не. Дарэчы, і тыя, што дасылаў я, таксама не дайшлі да адрасатаў. Тэлевізар быў у камеры, але працаваў толькі 20 снежня. На наступны дзень ужо не.

**«НН»: Бачылі заяву Ярослава Раманчука?**

**АК**: Так. Лічу гэта ягонай асабістай справай. Можа, і ў нас у партыі нехта яе падзяляе. Але я на баку Анатоля Лябедзькі, пазіцыя якога больш жорсткая. Лічу, што заяву рабіць не варта было.

**«НН»: А пра Лябедзьку што-небудзь ведаеце?**

**АК**: У турме ходзяць чуткі, што ён і Статкевіч па-ранейшаму працягваюць галадоўку.

**«НН»: У якім Вы зараз статусе знаходзіцеся?**

**АК**: Абвінавачанага.

**Гутарыў ЗП**

## Канфуз Мартынава

Працяг са старонкі 1.

Вал рэпрэсій у Беларусі выклікаў бурную рэакцыю грамадзянскай супольнасці Еўропы. Грамадскасць патрабуе ад урадаў тэрміновых мераў па абароне правоў чалавека ў краіне, што мяжуе з трыма дзяржавамі ЕС.

У выніку нават візіт Мартынава ператварыўся ў халодны душ. Ні 10 студзеня, ні 11-га ні баранэса Эштан, ні Фюле з Мартынавым не сустрэліся. У беларускім МЗС былі вымушаны паведаміць, што «міністр працуе ў Брусэлі па сваім графіку». А 11-га агенцтва ПАП паведаміла, што міністр пакінуў Брусэль.

Тым часам дыпламаты Еўрасаюза фармуюць спісы беларускіх чыноўнікаў і сілавікоў, якія падпадуць пад візавыя санкцыі ЕС. Як паведамляюць крыніцы, у папярэднім варыянце спіса аказалася больш за 100 чалавек. Адзінай краінай, якая выступае супраць уводзення санкцый, аказалася Італія. Нагадаем, што Лукашэнка меў сустрэчы з прэм'ер-міністрам Італіі Сільвія Берлусконі як у Мінску, так і ў Рыме.

Таксама і Літва «робіць усе спробы, каб Беларусь не зачыняла дзвярэй Еўропе і не ішла да самаізаляцыі», такую заяву зрабіў кіраўнік МЗС гэтай краіны Аўдронюс Ажубаліс. А прэзідэнтка краіны Даля Грыбаўскайце заклікае аблегчыць візавы рэжым для грамадзян Беларусі.

А вось прадстаўнікі Швецыі і Венгрыі, якая цяпер старшынюе ў ЕС, выказваліся за аднаўленне візавых санкцый.

За жорсткую рэакцыю Еўропы выступілі ўплывовыя ў беларускім пытанні Германія, Польшча, Чэхія і Нідэрланды.

На любыя санкцыі афіцыйны Мінск рэагуе балюча. Раней лукашэнкаўская адміністрацыя была вымушаная пайсці на саступкі, каб санкцыі былі скасаваныя.

Пасол Венгрыі ў Беларусі Ферэнц Контра тым часам падрыхтаваў заяву ад імя паслоў краін ЕС з патрабаваннем вызваліць з турмы ўсіх палітзняволеных. Пасля прасілі пра сустрэчу з экс-кандыдатамі ў прэзідэнты. КДБ у гэтым адмовіў.

Тым часам міністр унутраных справаў Чэхіі Радэк Ён на сустрэчы ў Празе з прадстаўнікамі беларускай апазіцыі заявіў, што Чэхія гатовая прыняць усіх беларускіх палітуцекачоў. Нават калі Беларусь будзе дабівацца іх выдачы праз Інтэрпал.

**ЗП**

## Апазіцыя спрабуе аб'яднацца

9 студзеня лідары асноўных палітычных партый і аб'яднанняў падпісалі пагадненне аб стварэнні Нацыянальнай каардынацыйнай Рады дэмакратычнай апазіцыі.

Яе падпісалі дэмакратычныя прафсаюзы Ярашука, сацыял-дэмакраты Сідарэвіча, Статкевіча і Шушкевіча, «Справядлівы свет» Калякіна, АГП, БНФ, БХД, «Гавары праўду», Рух «За Свабоду» Мілінкевіча, «Малады Фронт», «Еўрапейская Беларусь», аргкамітэты Партыі жанчын «Надзея», Партыі працоўных, Партыі свабоды і прагрэсу, Рада інтэлігенцыі і палітык-адзіночка Казулін.

Галоўныя мэты дзейнасці Рады — вызваленне палітвязняў і свабодныя выбары. Такім чынам, апазіцыя вяртаецца фактычна да стану Каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў (КРДС), што існавала калісь да паўстання Аб'яднаных дэмакратычных сілаў.

Кіраўніка ў Радзе не будзе. Гэта будзе круглы стол апазіцыі.

**ЗП**

# Санкцыі: няўжо Еўропа ўдарыць па беларускай нафтахіміі?

Працяг са старонкі 1.

Ці магчымае ўвядзенне радыкальных эканамічных санкцый Еўрасаюза ў дачыненні Беларусі?

## Вайна з «Белнафтахімам»

Каб адказаць на гэтае пытанне, давайце пабачым, як сусветная супольнасць раней спрабавала ўплываць на беларускі аўтарытарны рэжым. Гісторыя санкцый супраць Лукашэнкі налічвае пакуль што ўсяго адну спробу эканамічнага ціску.

13 лістапада 2007 года Мінфін ЗША замарозіў усе банкаўскія рахункі, якія знаходзіліся пад юрысдыкцыяй ЗША і належалі «Белнафтахіму» і яго прадстаўніцтвам у Германіі, Латвіі, Украіне, Расіі і Кітаі, а таксама кампаніі «Белнафтахім Ю-Эс-Эй». Амерыканскім бізнэсоўцам было прадпісана ўстрымацца ад кантактаў з беларускім канцэрнам.

Праз паўгода санкцыі былі пашыраныя на ААТ «Лакафарба» (Ліда), РУП «Полацкае вытворчае аб'яднанне «Шкловалакно» і ЗАТ «Беларускі нафтавы гандлёвы дом». Усе іх амерыканскія рахункі таксама былі заблакаваныя.

У верасні 2008-га «Лакафарба» і «Полацк-Шкловалакно» былі часова памілаваныя — амерыканскім грамадзянам дазволілі супрацоўнічаць з гэтымі прадпрыемствамі. Змякчэнне санкцый пастаянна падаўжаецца на наступныя паўгода, чарговая вызначальная дата прызначана на 31 мая 2011 года.

На «Белнафтахім» санкцыі значна не паўплывалі. «Была праведзеная пэўная праца па пераводзе разлікаў на іншыя віды валют [з даляра]», — заяўляў намеснік канцэрна «Белнафтахім» Міхаіл Асіпенка.

Ніякіх афіцыйных эканамічных выкладак, якія б пралічвалі атрыманыя ці неатрыманыя страты, грамадскасці прадстаўлена так і не было.

## Ціск на Іран

Міжнародныя эканамічныя санкцыі называюць прамежкавымі мерамі — гэта ўжо не ўгаворванне, але яшчэ не прымяненне сілы. Самымі ўсёабдымнымі лічацца санкцыі ААН. Зараз яны працуюць супраць 11 краінаў свету з сумнеўным іміджам, напрыклад, Судана, Самалі, Афганістана... За ўсю гісторыю існавання ААН быў толькі адзін прэцэдэнт, калі санкцыі накладаліся на еўрапейскую краіну. Гэта была Югаславія Слабадана Мілошавіча.

Санкцыі Еўрасаюза не такія строгія, але таксама істотныя. Часцей за ўсё гэта эмбарга на пастаўку зброі ў тую ці іншую краіну і абмежаванне паездак кіраўніцтва дзяржавы. Напрыклад, забарона на імпарт узбраення ў Кітай дзейнічае ажно з 1989 года. Хоць азіяты і не пакутуюць ад гэтага, яны настойліва патрабуюць ад Еўропы адмяніць іміджавыя санкцыі.

З прыкладаў эканамічнага ціску апошняга часу найлепшым прыкладам выглядае Іран. Аятолы ўсхвалявалі свет, развіваючы сваю ядзерную і ракетную праграмы. Еўрасаюз і ЗША замарозілі інвестыцыі ў нафтавую і газавую прамысловасць краіны і забаранілі супрацоўніцтва з Іранам. Прэзідэнт краіны Махмуд Ахмадзінеджад зрабіў выгляд, што не заўважыў праблемы: «У сучасным свеце, з канкурэнцыяй свабоднага гандлю, санкцыі не працуюць. Санкцыі супраць Ірана не далі плёну». Але пры гэтым Іран спрабуе як мага хутчэй адмяніць эканамічны ціск. І нават пайшоў на саступкі.

## Казуліна вызвалілі, і цяпер спрацуе?

Ці спрацоўваюць насамрэч санкцыі?

Былы намеснік памочніка дзяржаўнага сакратара ЗША ў справах Расіі, Украіны, Беларусі і Малдовы Дэвід Крэмэр мяркуе, што менавіта палітыка палітычных санкцыяў прывяла да вызвалення палітычных зняволеных (Казуліна, Дашкевіча ды іншых) у Беларусі ў 2008 годзе, і абвінавачвае нямецкую дыпламатыю ў тым, што яна перашкаджала гэтаму вызваленню.

Эксперты, апытаныя «Нашай Нівай», схіляюцца да меркавання, што і ў гэты раз Еўропа абмяжуецца палітычнымі санкцыямі — напрыклад, пашырэннем спіса невыязных, ігнараваннем лукашэнкаўцаў.

Разам з тым, па інфармацыі «Нашай Нівы», у Брусэлі пакуль што не абмяркоўваецца магчымасць увядзення эканамічных санкцый супраць Беларусі.

## КАМЕНТАРЫ

### Эканаміст Сяргей Чалы: Магчымы крах эканомікі

**«НН»: Ці пратрымаўся б «Белнафтахім» без экспарту нафтапрадуктаў у Еўропу?**

**СЧ:** Гледзячы што лічыць Еўропай... Напрыклад, палова нафтапрадуктаў у Латвіі — беларускія. Якая стаіць мэта, дасягнуць краху эканомікі Беларусі ці паўплываць на змены палітыкі? Першае магчыма, але другое — не.

**«НН»: Ці ёсць якія-небудзь іншыя метады эканамічнага ўздзеяння? Якія б працавалі, але былі бясшкодныя для самой Еўропы.**

**СЧ:** Ёсць — проста нічога не рабіць. То бок не шкодзіць, каб не даваць падставаў для прапаганды, але і не адказваць на просьбы пра эканамічную дапамогу. Дапамагаць прыватнаму бізнэсу, але супрацоўніцтва на міждзяржаўным узроўні спыніць.

### Палітык Лявон Баршчэўскі: Не купляць бензін, пакуль не выпусцяць зняволеных

**ЛБ:** Безумоўна, санкцыі патрэбны. Гэта адзіны сродак давесці сітуацыю да таго, каб ва ўлады ўзніклі праблемы з выплатай заробкаў сілавым структурам. Людзі павінны задумвацца, несці адказнасць.

**«НН»: У якім выглядзе Вы ўяўляеце эканамічныя санкцыі?**

**ЛБ:** Не гандляваць, не купляць бензін ці іншыя нафтапрадукты — тое, на чым трымаецца рэжым. Калі выпусцяць закладнікаў, санкцыі можна будзе змякчыць.

**«НН»: Ці можна рызыкаваць магчымым дэфолтам?**

**ЛБ:** Хай спачатку выпусцяць закладнікаў! Санкцыі патрэбныя, каб паставіць беларускую ўладу ў цывілізаваныя межы.

### Палітолаг Дзяніс Мельянцоў: Эканамічныя санкцыі ўзмацняюць дыктатуры

**ДМ:** Галоўная дылема санкцыяў — як прымусіць беларускі ўрад паважаць правы чалавека і змусіць да дэмакратычных рэформаў, але адначасова не нанесці шкоду звычайным грамадзянам. Гісторыя паказвае, што эканамічныя санкцыі звычайна ўзмацняюць рэпрэсіўнасць дыктатуры.

**«НН»: Тады якімі іншымі сродкамі варта карыстацца?**

**ДМ:** На будучыню — дыялог і паступовае ўцягванне Беларусі ў эканамічную інтэграцыю з Еўрасаюзам. Але Еўрасаюз мусіць і неяк адказваць на гвалт у Беларусі, інакш ён страціць твар у вачах уласных грамадзян. Было б добра пасляць сігнал грамадству праз вырашэнне візавага пытання.

**Віталь Несцераў**

# Еўрасаюз сарве Беларусі кантракт на $1,5 мільярда?

Еўропа ўзгадала пра санкцыі на беларускіх экспарцёраў зброі.

Найбольш рэальным відам эканамічных санкцый выглядае эмбарга на экспарт беларускай зброі. Гаворка вядзецца пра дзейнасць кампаній «Белтэхэкспарт» і «Белзнешпрамсэрвіс». Даходы ад іх, на думку еўрапейскіх экспертаў, могуць пералічвацца на асабістыя рахункі беларускіх чыноўнікаў.

## Апошні еўрапейскі кліент — Славакія

На «Белзнешпрамсэрвіс» ў 2004 годзе ўжо накладаліся санкцыі. Тады ЗША абвінавацілі 14 арганізацый па ўсім свеце ў незаконным продажы зброі Ірану і наклалі двухгадовую забарону на гандаль з гэтымі суб'ектамі. Санкцыі накладаліся не на краіну, а менавіта на канкрэтную кампанію.

Тым не менш, продаж беларускай зброі працягваўся. Інфармацыю пра кантракты на пастаўкі зброі збіраюць некалькі арганізацый, у тым ліку ААН (з 2001 года) і Стакгольмскі міжнародны інстытут даследавання праблем свету.

Апошнія гады не надта прыбытковыя для беларускіх прадаўцоў зброі.

У 2009 годзе кліентамі беларускіх кампаній былі Судан, які купіў тры штурмавікі Су-5, Уганда, якая атрымала 23 танкі Т-55, і Азербайджан. Каўказцаў зацікавілі штурмавікі і гаўбіцы.



PHOTO.BYMEDIA.NET

### Афіцыйны экспарт/імпарт беларускай зброі (1992-2009)*

| Імпарт, $ млн | |
|---|---|
| Расія | 313 |
| Украіна | 29 |
| **Агулам** | **342** |

| Экспарт, $ млн | |
|---|---|
| Перу | 376 |
| Алжыр | 362 |
| Ангола | 243 |
| Сірыя | 235 |
| Марока | 172 |
| **Агулам** | **1,990** |

* Дадзеныя Стакгольмскага міжнароднага інстытута даследавання праблем міру

У 2008-м сярод кліентаў заўважаныя Сірыя, Расія і ўсё тыя ж Азербайджан і Судан.

У 2007 годзе ўдалося атрымаць грошы з Арменіі, Эрытрэі і Судана. Як бачна, ніводнай еўрапейскай краіны ў пераліку няма.

Апошняя пакупка такога кшталту прыходзіцца на 2005 год — тады Славакія набыла два ваенна-транспартныя верталёты Мі-8.

## Няўлічанае Перу

Мяркуецца, што найбольш прыбытковым для Беларусі быў перыяд з 1992-га па 2001 год, які не адсочваўся статыстыкай ААН. Па падліках даследчай службы кангрэса ЗША, толькі за 1998—2001 гг. Беларусь прадала зброі на $1 мільярд і займала 11-е месца ў свеце. Самым актыўным пакупніком тады выступала Перу. Туды прадавалі зброю і тэхніку, якая засталася на тэрыторыі Беларусі з савецкіх часоў.

## Патэнцыйны ісландскі аблом

Санкцыі маглі б прайсці міма Беларусі незаўважна, калі б не патэнцыйны кантракт, інфармацыя пра які з'явілася ў верасні мінулага года. Прыватная кампанія ECA Program заключыла з «Белтэхэкспартам» дамову на пастаўку 15 самалётаў Су-27. Кошт пастаўкі ацэньваўся ў $1,5 мільярда. Кампанія вяла перамовы аб арэндзе ў Ісландыі закансерваванай авіябазы ў Кефлавіку, каб выкарыстаць яе для трэніровак ВПС розных краін. Разглядалася магчымасць у будучым набыць у Беларусі яшчэ 18 такіх самых самалётаў.

Ісландыя актыўна збліжаецца з ЕС, таму, не выключана, можа далучыцца да агульных санкцый.

Але Еўрасаюз не можа ўплываць на афрыканскія краіны, найбольш зацікаўленыя ў беларускай зброі. Магчыма, грошы давядзецца перадаваць праз іншую валюту, а не даляр ці еўра, і праз іншыя банкі, а не еўрапейскія і амерыканскія.

**Яўген Васількоў**

## Сцісла

• **«Беларуськалій» зоймецца здабычай «чорнага золата».** Кампанія стала сузаснавальніцай прадпрыемства па распрацоўцы на тэрыторыі Беларусі радовішча гаручых сланцаў. Гэта сыравіна з'яўляецца крыніцай для атрымання, у тым ліку, і сінтэтычнай нафты. Партнёрамі «Беларуськалія» па аб'яднанню «Гаручыя сланцы» сталі прадпрыемствы «Беларуснафта» і «Белгархімпрам».

• **Беларусь адмаўляецца ад венесуэльскай нафты?** Беларусь узгадніла з расійскім бокам магчымасць імпарту ў 2011 годзе 21,7 мільёна тон нафты. Калі гэтыя планы будуць рэалізаваныя, то пад пытаннем акажуцца раней запланаваныя пастаўкі нафты з Венесуэлы. Заяўленых 21,7 мільёна тон (а будзе яшчэ каля 2 мільёнаў тон уласнай нафты) дастаткова для загрузкі «пад завязку» беларускіх НПЗ.

• **У Мінску з'явяцца імпартазамяшчальныя і экспартаарыентаваныя ЖЭСы.** Гарадскія ўлады створаць на базе ЖРЭА прадпрыемствы, якія будуць выпускаць вокны, запорную арматуру і іншую прадукцыю. Апроч продажу на экспарт, іх будуць выкарыстоўваць пры правядзенні капітальных рамонтаў будынкаў.

**ЯВ**

# Сукамерніца Ірыны Халіп: Іра ўсіх нас падтрымлівала



19 снежня Ірына Халіп усюды была са сваім мужам Андрэем Саннікавым.

Адзін дзень з дзесяці, якія жыхарка Барысава Ірына Панкавец адбыла ў Мінскім раённым ізалятары па вуліцы Скарыны, яна правяла ў адной камеры з Ірынай Халіп.

«З Ірынай мы сустрэліся на Акрэсціна, калі там ішлі допыты. Яна апынулася ў адным кабінеце з маёй дачкой Светай, а я была ў кабінеце насупроць. Іра расказвала, як іх затрымлівалі, што Саннікаву калена зламалі, думала яна.

Потым доўга нас разам трымалі ў аўтазаках, вазілі туды-сюды без вады, без ежы, без сну.

А да суда нас адвезлі ў ізалятар на Скарыны. Там у 11-й камеры нас трымалі. А потым, як нас выводзілі, каб адвезці ў суд, яе пакінулі адну.

Яна — малайчына, усіх падтрымлівала, жартавала, наколькі гэта было там магчыма. Вельмі моцная і добрая яна жанчына. А калі нас усіх з камеры забіралі, а яе пакідалі, тады быццам сляза ў яе з'явілася. Мы пачалі крычаць, чаму Іру не забралі разам з намі, а міліцыянты адказалі, што яе асобна павязуць.

Потым мы ўжо ў газетах прачыталі, што яна ў ізалятары КДБ».

46-гадовая Ірына Панкавец была зняволена разам са сваёй 23-гадовай дачкой Святланай. Дарэчы, яе сын Зміцер працуе ў «Нашай Ніве».

Ірына Панкавец працавала кухарам у школе. Цяпер яе звольнілі, але яна не адчайваецца.

У 2006-м яе звольнілі з санітарак у бальніцы за тое, што яе дзеці былі затрыманы на Плошчы. Але яна знайшла сабе новую працу. «Сумленны і працавіты чалавек без працы не застанецца», — упэўненая яна.

**Мікола Бугай**

## Унікальнае відэа разгону Плошчы захавалася ў ізалятары

Фотакамеру аднаго з затрыманых забыліся пачысціць.

Маляр з Мінска Юрась Шпак-Рыжкаў разам з жонкай Таццянай Грачанікавай 19 снежня быў на плошчы Незалежнасці. Юрась рабіў фота- і відэаздымкі на аматарскую фотакамеру. Перад самым разгонам ён зрабіў 5-хвілінны ролік. Спецназ атачвае людзей з усіх бакоў, грукаючы дручкамі ў шчыты. Хрыплыя крыкі камандзіраў: «Стаім, стаім!» Дэманстранты выгукваюць у адказ на бразгат: «Не баімся! Не баімся!» За спінамі пашыхтаваных міліцыянтаў з'яўляюцца аўтазакі. «О! Па нас прыехалі», — заўважае нехта. У голасе няма страху. Але вось ужо чуюцца першыя крыкі: «Што вы робіце?! Фашысты!» Абрыўкі загадаў на затрыманне.

Гэты відэаролік, а таксама фотаздымкі, зробленыя ў адным з аўтазакаў, шчасліва захаваюцца. Юрася з жонкай затрымалі паасобку. Ён правёў суткі ў чаканні суда ў аўтазаку.

Перад судом, які адмераў яму 10 сутак арышту, выпадкова сустрэўся з жонкай на Акрэсціна і паспеў перадаць ёй камеру.

У Таццяны, якая адбывала свае 15 сутак на вуліцы Скарыны, фотаапарат проста паклалі разам з асабістымі рэчамі, не выдаліўшы з яго нічога.

«Дзяўчаты з маёй камеры нейкім чынам здолелі пранесці з сабой мабільны тэлефон. Фатаграфавалі турэмны побыт. Дык ахоўнікі неяк даведаліся. Выклікалі на гутарку, выдалілі з яго ўсе фотаздымкі», — расказала Таццяна Грачанікава.

Пры затрыманні яе збілі. Спецназавец адабраў у яе шалік з «Пагоняй». Яе, як і Юрася, абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі, выкрыкванні лозунгаў «Жыве Беларусь!» і «Сыходзь!».

У сваім блогу Юрась Шпак-Рыжкаў выклаў цэлую галерэю аматарскіх партрэтаў калегаў па адседцы.

Пабачыць відэа і галерэю малюнкаў можна на сайце NN.BY.

**Сямён Печанко**



Гэты здымак маляр Юрась Шпак-Рыжкаў зрабіў у аўтазаку, у якім правёў суткі.



## Ярмошына з адрывам перамагае ў змаганні за інтэрнэт-прэмію «Сэксіст года-2010»

Колькасць аддадзеных за старшыню ЦВК Беларусі галасоў склала 90%.

Ініцыятыўная група «За фемінізм» заснавала інтэрнэт-прэмію «Сэксіст года-2010».

Сярод намінантак на спецыяльны прыз апынулася старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына.

Нагодай для гэтага стала яе выказванне пра маніфестацыю 19 снежня. Ярмошына заявіла пра збітых жанчын наступнае:

«Вы ведаеце, гэтым жанчынам рабіць няма чаго. Сядзелі б дома, боршч гатавалі, а не па плошчах шасталі. Калі жанчына ва ўзросце ідзе, значыць, прабачце, у яе нешта з інтэлектам не ў парадку».

Высновa ініцыятараў прэміі: старшыня ЦВК Беларусі транслюе сэксісцкія стэрэатыпы пра тое, што «месца жанчын на кухні» і што ў палітыцы ім не месца. Гэта гучыць асабліва цынічна, улічваючы акалічнасці: жанчын, якія ўдзельнічалі ў дэманстрацыі ў Мінску, жорстка збіваў АМАП (зрэшты, як і мужчын).

Вынікі конкурсу будуць агучаныя 13 студзеня.

**СП**

## «Вы б бачылі твар следчага, калі я сказала, што я ў БРСМ»

Сяброўка БРСМ расказвае, як адседзела 10 сутак.

Калі міліцэйскае кола пачало сціскацца вакол тых, хто 19 снежня 2010 прыйшоў на плошчу перад Домам урада, Саша не спрабавала з яго вырвацца. Не супраціўлялася, калі яе саджалі ў аўтазак. «Я першапачаткова абрала тактыку не супраціўляцца», — успамінае дзяўчына.

20-гадовая баранавіцкая студэнтка-завочніца Саша Суслава апынулася ў ліку тых, хто быў затрыманы падчас акцыі пратэсту ў Мінску ў дзень прэзідэнцкіх выбараў.

### Плошча ў коле

Хлопцы знаёмыя ў самай гушчы былі, а нас адправілі ў бяспечнае месца, туды, дзе журналісты стаялі. Нам нават ключы ад кватэраў аддалі, карткі пластыкавыя, таму што былі ўпэўненыя: мы ў бяспецы.

Гуку разбітага шкла мы не чулі, занадта шумна было. Я не ведаю, хто ладзіў гэтыя пагромы. Не думаю, што гэта былі простыя людзі, ніякай агрэсіі з боку якіх не было.

Я не бачыла п'яных, не бачыла неадэкватных людзей, затое я бачыла інвалідаў, якія ішлі на плошчу на мыліцах. Людзі ішлі туды, як на свята.

Мы адразу пачулі, як з'явіўся АМАП: шум, паніка, шчыты, якія з грукатам біліся адзін аб адзін. Мы бачылі галовы людзей і палкі над імі. Было страшна. Страшна ад усведамлення таго, што пад гэтымі палкамі — жывыя людзі.



У нейкі момант да нас падбег хлопец і сказаў, каб мы капюшоны надзелі, маўляў, калі будуць па галаве біць, капюшон змякчыць удар. Вядома, мы так і зрабілі, таму што баяліся па галаве атрымаць.

Нас, як статак авечак, пачалі ганяць з боку ў бок. А потым проста пачалі загружаць у машыны. З крыкамі, з матам, з абразамі.

### Дарога ў няволю

Вазілі нас доўга, нават не магу сказаць, колькі гэта заняло часу. Ведаю толькі, што мы вельмі змерзлі і стаміліся. У машыне было настолькі халодна, што мы нават не дрыжалі, таму што не адчувалі цела, ног.

Амаль праз суткі адбыўся суд. Ён праходзіў вельмі хутка. Па адным чалавеку заводзілі, зачытвалі пастанову. Гэта быў сапраўдны канвеер. Казаць нешта ў сваё апраўданне не мела сэнсу, ніхто нікога не слухаў.

На ўсіх было два віды пакарання: арышт на 10—15 сутак ці штраф. І неяк паўплываць на рашэнне суда з нашага боку было немагчыма.

### Камернае жыццё

Камера, куды нас змясцілі, была разлічаная на шэсць чалавек, але ў ёй было ўдвая больш людзей. Тыя, каму не хапіла месцаў, спалі на падлозе, прыцiснуўшыся адзін да аднаго.

Кармілі тры разы на дзень. Спачатку перадачы не дазвалялі, але потым начальнік ізалятара памякчэў. Зрабілася лягчэй.

У камеры ўвесь час гарэла святло. Была поўная дэзарыентацыя ў часе, і гэта было, напэўна, самае складанае.

### Неацэнная падтрымка

Падтрымка людзей вельмі дапамагала. Невядомыя людзі з усёй краіны перадачы перадавалі, у графе «роднасныя адносіны» пісалі «брат», «сябар», «сяброўка», хоць ніколі не бачылі таго, каму прызначалася перадача.

Дзяўчаты проста плакалі, калі атрымлівалі звязаныя ўласнымі рукамі цёплыя шкарпэткі ці цыдулкі. Гэта неацэнная падтрымка. І калі шчыра, я не чакала такога. Нават калі ў дзень вызвалення нас высадзілі на прыпынку, незнаёмыя людзі спыняліся і пыталіся, чым нам дапамагчы. Мы дзякавалі ім, а яны нам казалі: «Гэта вам дзякуй за тое, што вы зрабілі».

### Пад страхам адлічэння

Тры гады навучання — гэта не год, вядома. Я баюся, што мяне адлічаць з універсітэта. Але ва ўніверсітэце мяне сустрэлі зычліва: усе ўсё разумеюць. Сказалі, што я павінна зрабіць, каб здаць сесію. Так што пакуль усё нармальна.

Але з БРСМ, у якім я яшчэ са школы, могуць выключыць. З ганьбай.

Дарэчы, з БРСМам у маім зняволенні быў звязаны адзін цікавы момант. На допыце следчы спытаўся, ці знаходжуся я ў якіх-небудзь партыях ці грамадскіх арганізацыях.

Вы б бачылі яго твар, калі я сказала, што я ў БРСМ. «Ну ты наогул малайчына», — усё, што ён змог сказаць.

**МБ, паводле «Інтэкс-прэс»**

## Сем'і палітвязняў пачалі збіраць подпісы пад петыцыяй за вызваленне

Дакумент маюць агучыць на сесіі Еўрапарламента 12 студзеня.

Грамадзянская ініцыятыва «Вызваленне», у якую ўвайшлі блізкія беларускіх палітвязняў, у тым ліку кандыдатаў у прэзідэнты, праз фэйсбук звярнулася да беларусаў з просьбай аб падтрымцы.

Ініцыятары звароту заклікаюць падпісаць петыцыю «За вызваленне палітычных зняволеных». Дакумент плануецца агучыць на пазачарговай сесіі Еўрапарламента 12 студзеня.

За першыя 16 гадзін пасля абвяшчэння збору пад петыцыяй было сабрана 528 подпісаў. Усяго ініцыятары звароту хочуць сабраць 150 тысяч подпісаў.

**МБ**

# БТ паказала, што тысячы маніфестантаў былі гатовыя скідаць Лукашэнку

Першы тэлефільм Генадзя Давыдзькі.

На Першым лукашэнкаўскім тэлеканале ў нядзелю выйшаў новы прапагандысцкі фільм «Плошча. Жалезам па шкле». Стужка апавядала пра падзеі 19 снежня на Плошчы і пра тое, што ім папярэднічала.

Нічога выразна новага ў фільме не прагучала.

У пачатку аўтары засяродзіліся на тым, што кандыдаты заклікалі не на выбары, а на Плошчу. Потым вялікая частка была прысвечаная падрыхтоўцы «тэрактаў».

У кадры з'яўляецца гомельскі прадпрымальнік Юрый Панчук, які кажа, што ад Мікалая Статкевіча яму паступіла замова на вытворчасць «металічных штыроў». Быццам бы тыя штыры немагчыма купіць у Мінску, у любой краме будаўнічых вырабаў, — арматура ж масава выкарыстоўваецца ў будаўніцтве. Дырэктар Жлобінскага рамонтнатэхнічнага завода Ігар Нікіцін паведамляе пра замову па заточцы арматуры. Дэманструецца відэа затрымання «электрашокераў, нажоў, балончыкаў» на беларуска-ўкраінскай і расійскай межах. Пры гэтым так і не паведамлена, што нехта быў затрыманы.

У фільме шмат фігуруе тэлефонных размоваў кандыдатаў і (быццам бы) удзельнікаў іх камандаў. Але яны настолькі неканкрэтныя, што новай інфармацыі не даюць. Такія размовы маглі запісаць і сексоты, і нават акторы. Яны ўспрымаюцца, хутчэй, як гордая канстатацыя таго, што ў краіне «падслухоўваюць усіх», і таму праз тэлефон ніхто нічога сур'ёзнага не кажа.

Сярод тэлефонных размоваў былі і псіхадэлічныя: нейкая мама тэлефануе ў міліцыю, што яе 16-гадовы сын абвязаўся выбухпакетамі і пайшоў на Плошчу... Памажыце мне яго злавіць!..

Усё гэта — на поўным сур'ёзе!

Таксама на поўным сур'ёзе ў збіцці Уладзіміра Някляева абвінавацілі іншых кандыдатаў (Саннікава, Статкевіча, Рымашэўскага), якія, маўляў, былі незацікаўленыя ў тым, каб лідар «Гавары праўду» ўзначаліў Плошчу.

Але ж дзясяткі журналістаў былі сведкамі таго, хто і нашто збіваў Някляева, — каб забраць гукаўзмацняльную апаратуру.

Паводле БТ, Саннікаву на кампанію было «выдзелена» паўмільёна даляраў.

А вось Някляеў змог перавезці ў Беларусь 1 мільён 668 тысяч 550 даляраў, хоць рабіў запыт на 16 мільёнаў.

Яго спонсарамі называюць амерыканскі Нацыянальны фонд у падтрымку дэмакратыі, а таксама нейкі еўрапейскі фонд СІМПФА (прагучала невыразна, цяжка было разабраць). Фонд СІМПФА нам невядомы, а НФПД (NED) — гэта вядомая амерыканская фундацыя, якая была заснаваная за Рэйганам, для прасоўвання дэмакратыі ў свеце. На нашу думку, амаль неймаверна, каб кампанія «Гавары праўду» атрымлівала сродкі ад НФПД. Найхутчэй, крыніцы шчодрага фінансавання «Гавары праўду» застаюцца для спецслужбаў невядомымі.

Вось якую схему дастаўкі грошай намалявалі аўтары фільма.

Сяргей Вазняк нібыта ехаў у Вільню, дзе атрымліваў грошы ад Андрэя Дзмітрыева, а потым змяшчаў іх на вакзале ў камеры захоўвання ў розных аддзелах. Потым звязваўся праз скайп з кур'ерамі, якія прыязджалі грошы забіраць.

Гаварылася, што ідэйных прыхільнікаў у Някляева не было, усе працавалі толькі за грошы.

Дарэчы, фільм агучваў, здаецца, новы кіраўнік Белдзяржтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька — у мінулым жыцці блізкі прыяцель Някляева, наведнік адной з ім лазні.

Шмат было паказанняў хлопцаў, што ўдзельнічалі ў акцыі, а потым адбывалі пакаранні ў ізалятарах часовага ўтрымання, у тым ліку некалькіх, што праходзяць па крымінальнай справе, — паказаны былі Антон Давыдзенка, Васіль Парфянкоў, Сяргей Лугаўскі, Ігар Мысьлівец, Мікіта Шапураў, грамадзяне Расіі Арцём Брэус і Аляксей Еўдакімаў. Праўда, і яны нічога істотнага не сказалі. Так, агульныя словы ў сваё апраўданне.

Адзначыўся ў фільме і «сацыял-дэмакрат» Уладзімір Нісцюк, які выказаўся пра дзяльбу грантаў.

«Плошча...» паказвае кадры з тысячамі людзей на вуліцах Мінска. Відаць, у БТ проста не было іншых ракурсаў і яны былі вымушаны міжволі паказаць, наколькі шматлюдным быў выступ супраць дыктатуры.

Аператары спецслужбаў імкнуліся ў самыя гарачыя пункты падзей.

Напрыклад, яны сфільмавалі цікавы момант, калі ці то Дзмітрыеў, ці то Саннікаў паказвае Кастусёву аддрукаваны аркуш паперы, дзе гаварылася пра стварэнне «Урада нацыянальнага выратавання». Значыць, у кагосьці з кандыдатаў былі сцэнары, А, Б і В на розныя выпадкі развіцця падзей.

БТ старалася абвергнуць словы, што «штурмам» Дома ўрада займаліся пераапранутыя ў цывільнае міліцыянты і кадэбісты.

Яны нават назвалі некалькі імёнаў і паказалі іх пры дзвярах Дома ўрада. Гэта 49-гадовы прараб Алег Федаркевіч, 20-гадовы Мікіта Ліхавід.

Разам з тым, было пацверджана, што ў першых шэрагах дзейнічалі дзіўнаватыя, раней судзімыя асобы. Такімі названы былі Васіль Парфянкоў і «Навушнік» Уладзімір Хамічэнка. Асобы, зусім не засвечаныя ў апазіцыі.

Сярод тых, хто «атакаваў», быў таксама названы прэс-сакратар Саннікава Аляксандр Атрошчанкаў. Аднак на кадрах відаць, што яго проста нясе ў людской плыні, якая хоча правесці ў Дом урада дэлегацыю кандыдатаў у прэзідэнты.

А лідар АГП Анатоль Лябедзька і Наталля Каляда спрабавалі закрыць камеры аператара спецслужбаў. І гэта таксама фігуравала як частка «беспарадкаў»...

Пусцілі запіс тэлефонных размоваў Статкевіча з нейкім Сашам, які, маўляў, званіў з Украіны і настойліва дапытваўся, ці ўжо «ўзялі Кабмін». Калі верыць запісу, ён падбадзёрваў Статкевіча: «Займай крэсла Сідорскага і націскай на кнопкі!»

А адзін з самых маляўнічых званкоў — быццам бы ад Аляксандра Фядуты са штаба Някляева быццам бы жонцы Някляева ў бальніцу. Мужчынскі голас просіць: «Сообщите проводырю, что наши вошли в Дом правительства. Ну, он знает». Цяжка сказаць, ці такое тэлефанаванне сапраўды мела месца. Калі так, значыць, і Фядута па-юнацку паддаўся эйфарыі — сайт Charter97.org сапраўды ў пэўны момант беспадстаўна змясціў такую інфармацыю.

Пры канцы было сказана, што апазнана «больш за 100» удзельнікаў «беспарадкаў», а 40 з іх ужо арыштаваныя. Гэта не апошняя серыя БТ пра падзеі на Плошчы.

Фільм БТ трохі дадае разумення таго, якія хады прыдумалі ўлады, каб апраўдаць свой план разгону Плошчы, разгрому і застрашвання апазіцыі. Фільм таксама дае магчымасць ацаніць, як шмат людзей гатовыя былі падтрымаць радыкальны план скідання рэжыму. З кадраў паўстае пераважна спантанная актыўнасць дэманстрантаў. Ніякіх вартых даверу доказаў арганізаванай дзейнасці «груп баевікоў» прадэманстравана не было.

**Зміцер Панкавец**

## Анекдоты з нагоды

— Эта Саша. Ну што, заходзіце вы ў кабмін? Садзісь у крэсла Сідорскага і нажымай кнопкі.

— Што-што?

— Захадзі ў кабмін. Садзісь в Сідорскага крэсла і нажымай кнопкі.

— Куды вы звоніце?

— Эта Мясніковіч?

— Не, гэта Статкевіч...

***

Толькі беларускія кінолагі могуць нацягаць сабаку на абрэзкі арматуры.

# У БНФ забіраюць сядзібу

Янукевіч: Трэба, каб людзі пісалі Ладуцьку.

9 студзеня на Управу Партыі БНФ быў дастаўлены ліст са ЖРЭА Савецкага раёна Мінска. У ім паведамляецца, што Партыя БНФ і ГА «БНФ Адраджэнне» павінны вызваліць памяшканне па заканчэнні тэрміну арэнды.

Новыя дамовы арэнды ЖРЭА Савецкага раёна сталіцы заключаць з БНФ не збіраецца. У якасці прычын высялення фігуруюць запазычанасці па аплаце.

У БНФ існаванне запазычанасцяў абвяргаюць і гавораць, што максімальная пратэрміноўка з аплатай складала толькі тры дні.

Сітуацыю для «Нашай Нівы» пракаментаваў лідар партыі Аляксей Янукевіч: «Насамрэч гэта гісторыя з высяленнем ужо не першая. Раней удавалася захаваць сядзібу партыі дзякуючы розгаласу ў СМІ і падтрымцы простых грамадзян. Мы спадзяёмся, што калі будзе рэзананс, то і сёлета нам атрымаецца захаваць свой адрас на Машэрава, 8».

Спадар Янукевіч лічыць, што незадаволенасць ЖРЭА тэрмінамі ўнясення аплаты выкліканая палітычнай актыўнасцю БНФ і агульнай напружанасцю ў краіне. «Думаю, што рашэнне нас выселіць — палітычна матываванае.


PHOTO.BYMEDIA.NET

Партыя БНФ заклікае ўсіх пісаць лісты кіраўніку Мінгарвыканкама.

Гэта можна разглядаць і як праяву татальнай зачысткі незалежнага грамадства, і як жаданне націснуць менавіта на нас у сувязі з актыўнай кампаніяй салідарнасці з арыштаванымі 19 снежня.

ЖРЭА Савецкага раёна Мінска не першы раз спрабуе пазбавіць БНФ офіса ў цэнтры сталіцы. Апошняя такая спроба была ў 2005 годзе, аднак тады рашэннем Мінгарвыканкама дамова аб арэндзе памяшкання па адрасе Машэрава, 8 была працягнутая. Атрымаць каментар наконт адмовы працягваць арэнду памяшкання з Партыяй БНФ у самім ЖРЭА Савецкага раёна сталіцы не ўдалося. Начальніка ўстановы звыкла «не аказалася на месцы».

Партыя БНФ таксама заклікае ўсіх беларусаў накіроўваць лісты кіраўніку Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта Мікалаю Ладуцьку з просьбай разабрацца ў сітуацыі.

Цяперашняя арэндная дамова дзейнічае да красавіка. На 12 студзеня запланаваная сустрэча з прадстаўнікамі ЖРЭА і Мінгарвыканкама. Гаворка пойдзе пра магчымасць далейшай арэнды гістарычнага памяшкання на Машэрава, 8.

**Алесь Пілецкі**

## Прэмія «За духоўнае адраджэнне». Від ззаду

**Звярнула ўвагу: у афіцыйных справаздачах дзяржаўных СМІ з уручэння прэмій «За духоўнае адраджэнне» (народная назва — «За духоўнае выраджэнне») ніводзін з тых, каму ўручае прэмію Лукашэнка, не паказаны спераду.**

Мы не бачым твараў гэтых людзей. Ніводнага твару. Толькі спіны, задняя часткі прычосак. Паказальна.

Вас прынізілі, прымусіўшы атрымліваць прэмію з рук, на якіх яшчэ не высахла кроў кандыдатаў, за якіх вы галасавалі.

Ніводзін з тых, каму ўручае прэмію Лукашэнка, не паказаны спераду.

Вас прынізілі другі раз — вось такімі фотаздымкамі.

Жывіце з гэтым.

Патрацьце прэмію, як палічыце патрэбным.

За «Цароў» [фальклорны гурт — Рэд.] асабліва крыўдна. Калісьці з захапленнем глядзела фільм пра вас. Больш не будзе захаплення.

**Наталка Бабіна, Ждановічы (Мінскі раён)**

## Не гуляйце ў паддаўкі з лукашызмам

**Людзі, што ж вы робіце?** Раз-пораз натыкаюся на выказванні, накшталт «Раманчук здаў сваіх», «Рымашэўскага адпусцілі, значыць, таксама здаў», «Міхалевіч таксама збіраецца кагосьці здаць» — што, маўляў, усе здраднікі.

Ну навошта абліваць лайном сумленных хлопцаў? Вы што, былі ў засценках лукашысцкай інквізіцыі? Асабіста зафіксавалі факт здрады? Не? Тады навошта пісаць пра тое, пра што не ведаеце?

Афіцыёз жадае нацкаваць нас адзін на аднаго.

Няўжо не разумееце, навошта афіцыёз жадае нацкаваць нас усіх адзін на аднаго? Няўжо не памятаеце, як на апазіцыйных мітынгах засланцы здымалі відэа, фоткалі, а потым на аснове ўсяго гэтага кляпалі свае фальшывыя «манеты» — «Малады Фронт — кіднэпінг», «Тэхналогія правакацый» і інш.

Не гуляйце ў паддаўкі з лукашызмам!

Давайце лепш усе разам устанем на абарону тых людзей, на якіх наш афіцыёз накінуўся як галодная звярына на здабычу! Давайце скажам дружнае НЕ таму, хто зараз упіваецца пакутамі апанентаў!

Яму як манна нябесная патрэбныя нашы «наезды» на тых, за каго мы галасавалі і каго абаранялі.

**Алекс, yandex.ru**

## Чаму не абураюцца ветэранскія арганізацыі?

**Добры дзень «Наша Ніва»!**

Да гэтага часу няма абурэння з нагоды падзеяў 19 снежня з боку ветэранскіх і іншых уладных арганізацый?

Слаба адпрацоўвае бюджэт.

Хачу нагадаць гэтым арганізацыям аб своечасовым агучванні іх пазіцыі ў падтрымку ўлады, без так званага сігналу зверху. А то несвоечасова вышэйназваныя «общественные орг-ии» адпрацоўваюць бюджэт. :)

З павагай,

**Юры, gmail.com**

## Памыляецеся наконт праваслаўных. Хрыстос нас вывеў на Плошчу!

**Паважаная рэдакцыя «Нашай Нівы», велізарны вам дзякуй за тое, што вы сёння з'яўляецеся для нас акном у свет.** Пры сённяшнім багацці дзяржСМІ, якія адстойваюць хлуслівую ідэалогію, знікае жаданне не тое што жыць, а нават існаваць. І калі б сёння не было сайтаў, якія паведамляюць пра рэальную сітуацыю ў краіне і свеце, я б ужо або з'ехаў, або памёр бы. А так як я ведаю праўду дзякуючы вам, я гатовы жыць, каб змагацца далей. І жыву ў чаканні новай Плошчы, паралельна праводзячы сярод сваіх калегаў, сяброў, аднадумцаў, сваякоў працу па падтрыманні стойкасці духу і веры ў збавенне роднай Беларусі ад дыктатуры.

Не варта судзіць царкву, калі ў ёй ёсць аблудныя авечкі.

Толькі вось мяне турбуе адзін момант. У каментарах я бачу, што людзі пачынаюць не проста крытычна, а нават з нянавісцю ставіцца да Праваслаўнай царквы. Я сам з'яўляюся праваслаўным «уцаркоўленым» хрысціянінам (кажучы сучаснай мовай, актывіст аднаго з храмаў). Знаёмы асабіста са шматлікімі святарамі і епіскапамі. І хачу заявіць, што сапраўды праваслаўныя хрысціяне заўсёды стаялі на баку праўды, бо, як сказана ў Евангеліі, «ваш бацька — д'ябал, і вы хочаце выконваць прыхамаць бацькі вашага. Ён быў душагуб ад пачатку і не ўстояў у ісціне, бо няма ў ім ісціны. Калі кажа ён няпраўду, кажа сваё, бо ён ашуканец і бацька няпраўды...».

Не варта судзіць царкву, калі ў ёй ёсць аблудныя авечкі (нават калі і ў сане). Мы да апошняга дня імкнёмся захаваць нашых братоў і сясцёр у надзеі наставіць іх на розум, бо мы адна сям'я. Мы молімся і спрабуем наставіць гэтых людзей.

Паверце, на плошчы было шмат праваслаўных (і не толькі праваслаўных) сапраўдных хрысціян, якія прыйшлі за праўдай. Асабіста я туды адправіўся адзін, але вось цуд: у шматтысячным мітынгу мяне знайшлі мае сябры з храма, пасля чаго нас ужо ніхто не змог бы пераканаць, што сам Хрыстос нас усіх вывеў 19 снежня на плошчу, быў там з намі ўсімі, застаецца цяпер і будзе вечна.

У падтрымку сваёй роднай царквы хачу падзяліцца творам вялікага пастыра Аляксандра Шмемана на тэму Раства Хрыста. Яго пропаведзь выразна адлюстроўвае сённяшнюю сітуацыю ў нашай краіне, нягледзячы на тое, што была напісаная больш за 30 гадоў таму. З любоўю і павагай, дзякую за ўвагу.

З Раством Хрыстовым! Верым, можам, пераможам!

Амінь.

**Валерый Бялевіч, mail.ru**

**Ад Рэдактара.** Дзякуй Вам за добрыя словы і за спасылку на мудрае казанне. Не зважайце на галасы нянавісці. Нянавісць бясплённая, і сыдзе, як вада ў пясок.

## Дзе мае грошы?

**Пасля войска я адпрацаваў 28,5 года на заводзе «Авіятар» у г.Віцебску і ў 1995 г. зволіўся з-за таго, што заробку не хапала на ежу.** Жонка таксама адпрацавала на заводзе «Авіятар» 37 гадоў. На пачатку працы жонка прапанавала пералічваць праз ашчадную касу на ашчадную кніжку 20—30 рублёў.

Усяго сабралі 4000 рублёў — аўто «Масквіч» альбо 5 кароў. У 1990 сын дэмабілізаваўся з войска, думалі, аддамо яму грошы на жытло, а тут абвал.

Вярніце ўклады!

Чую, на прэс-канферэнцыі задаюць пытанне Лукашэнку: «Аляксандр Рыгоравіч, як будзеце вапалняць уклады?» — «Тэлевізары дам, халадзільнікі». Мы з жонкай узрадаваліся, халадзільнік з 1975 года паржавеў, тэлевізар стары барахлíў.

І што ж? Калі дазволілі пенсіянерам атрымліваць кампенсацыі за ўклады, нам выдалі суму на ватовую коўдру, якую мы і набылі.

**Цімафей Макаранка, Віцебск**

## Апазіцыя, аб'ядноўвайся, пакуль не позна

**Адна мая знаёмая ўваходзіла адзін раз у склад выбарчай камісіі.** І што вы думалі? Яна мне распавяла нядаўна, як старшыня з ёю разам ноччу «тасавалі бюлетэні».

Апазіцыі трэба аб'ядноўвацца. Што б ні гаварыла Ярмошына, але яны баяцца гэтага варыянта.

Бачу, народ хоча перамен (большасць), але баіцца, што прыйдуць іншыя і будуць хапаць сабе ў кішэні, а стары, па іх словах, нахапаўся. Другія кажуць, што і далей будзе ўсё роўна такая ж несправядлівасць. Вось у чым справа!

Я ўжо сталага ўзросту. Я хацеў бы пабачыць перамены ў нашай незалежнай, квітнеючай Сінявокай. Можа, пабачу, а можа, не! Але калі не, то каб мой сын і мае ўнукі жылі добра, спакойна і без усялякага страху і размаўлялі на роднай мове.

Яна мне распавяла нядаўна, як старшыня з ёю разам ноччу «тасавалі бюлетэні».

Напрыканцы хачу сказаць, што калі краіна незалежная, паважае сваю культуру, мову, то і яе паважаюць краіны ўсяго свету.

**Лявон Міхальчук, п.Белавежскі (Камянецкі раён)**

## Радыкальная пазіцыя шкодзіць, а не кансалідуе

**Часта ў каментарах да артыкулаў на сайце можна сустрэць на адрас расейскае мовы выразы кшталту «акупантаўка», «маскальская мова».**

Нагадаем нашым актыўным каментатарам, у якой сітуацыі мы жывём. А жывём мы не ў Эстоніі, а ў Беларусі, дзе расейская мова ўжо даўно не чужая. І не важна, як гэта склалася. Ёсць факт, сучаснасць, і нам трэба з гэтай сучаснасці сыходзіць. Таму менавіта такая радыкальная пазіцыя ніяк не можа весці да кансалідацыі грамадства.

Калі мы хочам жыць у новай дзяржаве, трэба вучыцца любіць і паважаць усіх грамадзянаў, безадрозна ад мовы, нацыянальнасці, паходжання, веравызнання, прыналежнасці да сэксменшасцяў.

Калі мы будзем мець салідарызаванае грамадства, салідарызаванае на агульначалавечых каштоўнасцях свабоды выбару, тады можна будзе далей рухацца. Пакуль жа ў нас назіраецца сацыяльная раздробленасць, ні аб якіх зменах нават і думаць немагчыма. Бо паўстаць і абараніць свае правы проста не будзе з кім.

**Аляксей Несцераў, gmail.com**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Плошча застаецца галоўнай тэмай рэдакцыйнай пошты. Чытачы ў адзін голас выказваюць захапленне мужнасцю людзей, якія ўзнялі голас пратэсту і запатрабавалі свабодных выбараў.**

## Шукаем чалавека

Што сталася з мужчынам, якога 19 снежня «хуткая» забрала з плошчы Незалежнасці непрытомным?

У Рэдакцыю «Нашай Нівы» прыйшоў хлопец, які на ўмовах ананімнасці (баіцца пераследу) распавёў, як стаў сведкам збіцця чалавека групай спецназаўцаў на плошчы Незалежнасці 19 снежня.

Збітым, паводле яго словаў, быў мужчына сярэдняга веку. Каля пяці спецназаўцаў збілі яго дубінкамі настолькі, што ён страціў прытомнасць. Тады міліцыянты абступілі ахвяру, спрабавалі прывесці ў змыслы, а калі не ўдалося, кінуліся па «хуткую дапамогу». Збіты быў непрытомны, толькі цела ў яго злёгку рэфлекторна торгалася. Камяк ваты з нашатырным спіртам, які паклалі чалавеку на твар, выніку не даў. Чалавека закінулі ў хуткую, і тая працяглы час не рухалася з месца.

Канец таго самага эпізоду назіраў на свае вочы адзін з рэпарцёраў «НН».

Чалавек ляжаў ля самай праезнай часткі праспекта Незалежнасці, на вузкім беражку тратуара — насупраць навагодняй яліны ля будынка Мінгарвыканкама. Адзін з амонаўцаў падтрымліваў галаву збітага, падклаўшы пад патыліцу далоні. Галава торгалася. Гэта адбывалася між 23.45 і 0.00.

Паведамленне пра гэты эпізод было размешчанае на сайце газеты ў 0.11 20 снежня. У каментарах да яго выказвалася меркаванне, што пацярпелага вывелі з аднаго з аўтазакаў.

Неўзабаве пасля публікацыі гэтага матэрыялу чытачы даслалі ў Рэдакцыю відэа здарэння, зробленае мабільным тэлефонам. Яго аўтар праязджаў плошчай Незалежнасці акурат у той момант, калі з «хуткай» дасталі насілкі і грузілі на іх пацярпелага.

Звяртаемся да сведкаў здарэння, сваякоў, работнікаў міліцыі і медыцынскай дапамогі: ці ведаеце вы нешта пра лёс збітага чалавека? Калі так, паведамляйце ў Рэдакцыю.

Кантакт з Рэдакцыяй:
э-пошта: nn@nn.by;
тэлефоны: +375 17 284-73-29 (тэл./факс), +375 29 613-32-32 (Velcom), +375 29 707-73-29 (МТС). Skype: nashaniva



**Гэтае фота нам даслаў іншы сведка. Вось што ён піша: «Я праязджаў міма на машыне. Пабачыў, што робіцца нешта страшнае. Спыніўся, даў назад. Зрабіў здымак. На ім відаць, як міліцыянт трымае галаву чалавека на руцэ. Міліцыянт пабег па насілкі адразу. (Я падумаў, што ў мой бок.) Спужаліся, відаць, што стане вядома. Бачыў таксама, як бліжэй да Дома ўрада два амапаўцы цягнулі па зямлі непрытомнага хлопца».**

# Шапіра хоча стаць маленькім Лукашэнкам

### Старшыня Гродзенскага аблвыканкама будзе кантраляваць замежныя камандзіроўкі.

Каб выехаць у замежную службовую камандзіроўку, кіраўнікам дзяржаўных прадпрыемстваў, размешчаных на тэрыторыі Гродзенскай вобласці, цяпер трэба дазвол старшыні аблвыканкама Сямёна Шапіры. Робіцца гэта ў «мэтах забеспячэння стабільнай работы» прадпрыемстваў.

Распараджэнне № 227р «Аб парадку выезду ў службовую камандзіроўку за мяжу» ўступіла ў сілу 16 снежня, з моманту падпісання.

Для атрымання дазволу на імя старшыні аблвыканкама неабходна прадставіць ліст з указаннем звестак пра дзяржаву і тэрмінах камандзіравання, мэты — і крыніцы фінансавання камандзіроўкі. Кантроль за выкананнем дадзенага распараджэння ўскладзены на камітэт эканомікі аблвыканкама. Сюды па выніках камандзіроўкі кіраўнікі арганізацый у 10-дзённы тэрмін мусяць даслаць інфармацыю аб выніках камандзіроўкі, у тым ліку пра яе эфектыўнасць.



ЮЛІЯ ДАРАШКЕВІЧ
Сямён Шапіра пачынаў як ліберал.

Цікава, што спачатку распараджэнне тычылася прадпрыемстваў усіх формаў уласнасці — і нават гендырэктар фінскага канцэрна, уласнік «Лідскага бровара», мусіў бы падпісваць «прашэнне на імя яго светласці».

Гэта выклікала рогат і плач у інтэрнэт-СМІ.

Усвядоміўшы абсурд сітуацыі, Шапіра даў задні ход. Ён удакладніў, што распараджэнне тычыцца толькі кіраўнікоў, што працуюць на дзяржаўнай службе і атрымліваюць заробак з бюджэту.

Наяўнасць у распараджэнні фармулёўкі «незалежна ад ведамаснай падпарадкаванасці і формы ўласнасці» кіраўнік вобласці патлумачыў тым, што супрацоўнікі апарата аблвыканкама маглі «перастарацца».

Нагадаем, што ў свой час Аляксандр Лукашэнка ўвёў норму, паводле якой найвышэйшыя чыноўнікі павінны ўзгадняць у Адміністрацыі прэзідэнта любы свой выезд за мяжу.

**Сямён Печанко**

# У сабор не прыехаў, з Філарэтам сустрэўся ў вузкім коле

### Загадкавая адсутнасць на Раство.

7 студзеня, на праваслаўнае Раство, Аляксандр Лукашэнка не пабываў у Свята-Духавым кафедральным саборы. У мінулыя гады ў гэтае свята ён заўжды прысутнічаў на святочнай службе. Гэтым жа разам ён унікнуў кантакту з народам.

Як паведамляе праваслаўны партал sobor.by, Аляксандр Лукашэнка павіншаваў мітрапаліта Філарэта са святам Нараджэння Хрыстовага ў ніжнім прыдзеле храма-помніка Усіх Святых, што на вуліцы Каліноўскага. Як паведамляецца, Лукашэнка і мітр. Філарэт запалілі свечкі каля абраза Раства, абмяняліся сціплымі падарункамі: мітрапаліт уручыў ікону святога Івана Прадвесніка, а Аляксандр Лукашэнка — напрастольнае Евангелле ў пазалочаным акладзе. Пасля гэтага яны пабяседавалі за чаем у адміністратыўным будынку пры храме. Як паведамляе партал, Аляксандр Лукашэнка «отметил высокое качество работ по возведению храма, посвященного памяти всех безвинно убиенных в Отечестве нашем».

Лукашэнка «отметил высокое качество работ по возведению храма, посвященного памяти всех безвинно убиенных в Отечестве нашем».

Перад 6 студзеня паведамлялася, што Лукашэнка наведае святочную службу. Няясна, чаму ён змяніў планы. Ці мог ён збаяцца абструкцыі вернікаў? Пасля 19 снежня вялікая група праваслаўных выступіла з петыцыяй, што асуджае фальсіфікацыі на выбарах і паслявыбарчы гвалт (гл. «НН» №1).

Нават афіцыйная газета Праваслаўнай царквы «Царкоўнае слова» апублікавала падборку лістоў з крытыкай масавых арыштаў і разбою пасля 19 снежня.

**Мікола Бугай**

Памыляецеся наконт праваслаўных. Хрыстос нас вывеў на Плошчу! — ліст чытача, **старонка 7**.

# Раманчук: Я ездзіў у Еўропу зняць напружанне

### Інфармацыя пра замежны адпачынак экс-кандыдата пацвердзілася.

Напярэдадні Новага года экс-кандыдат у прэзідэнты Яраслаў Раманчук паведаміў, што з'язджае за мяжу. 6 студзеня ён паведаміў карэспандэнту сайта ale.by, што ў Еўропе «ўсяго толькі зняў напружанне».

«Каму гэта цікава, дзе я быў? — здзіўляецца Яраслаў Раманчук. — Мае асабістыя планы ніякага дачынення да эканомікі і палітыкі не маюць. У Еўропе я зняў напружанне, якое назапасілася ў апошні час, не больш за тое».

Карэспандэнт пацікавіўся, як ідуць справы з вызваленнем Анатоля Лябедзькі, які да гэтага часу знаходзіцца ў следчым ізалятары КДБ. «У мяне няма простай сувязі з прэзідэнтам, таму я магу толькі здагадвацца, што ўсё трывожна», — распавёў Яраслаў Раманчук.

Але Раманчук захоўвае аптымізм: «Лічу, сітуацыя ў бліжэйшы час павінна абавязкова выправіцца, таму што ні АГП, ні Анатоль Лябедзька, ні тыя людзі, якія былі ў маёй кампаніі, не заслугоўваюць такога грознага абвінавачвання, якое да іх сёння прад'яўляецца. Я прапаную яшчэ крыху пачакаць і затым правесці незалежнае расследаванне ўсяго таго, што адбылося».

Па словах экс-кандыдата, увесь яго працоўны час сыходзіць на распрацоўку сістэмнай рэформы эканомікі і на фарміраванне дырэктывы, якая ў будучыні дазволіць Беларусі «палепшыць бізнэс-клімат і дасць магчымасць патрапіць у трыццатку паспяховых краін».

Нагадаем, 20 снежня Раманчук выступіў на БТ з асуджэннем паслявыбарных пратэстаў і з асабістай крытыкай калегаў-кандыдатаў. Пасля ён ускосна прызнаваўся, што тэкст выступу яму далі ў Адміністрацыі прэзідэнта. У той самы дзень Раманчук меў сустрэчу з Лукашэнкам, які паабяцаў яму разгледзець магчымасць вызвалення Лябедзькі.

**СМ**

# Рэдактар «Борисовских новостей»: Вынеслі ўсё. Шукалі прылады злачынства

### Супрацоўнікі барысаўскага РУУС апісалі аргтэхніку незалежнага выдання.

У панядзелак 10 снежня ў рэдакцыі незалежнай рэгіянальнай газеты «Борисовские новости» прайшоўператрус. Пра гэта паведаміў галоўны рэдактар выдання Анатоль Букас.Ператрус ладзілі супрацоўнікі мясцовага РУУС, пры сабе яны мелі пастанову, выпісаную ва Упраўленні КДБ па Мінску і Мінскай вобласці.

Нагода для ператрусу — следчыя дзеянні ў рамках крымінальнай справы па факце падзей 19 снежня ў Мінску. Згодна з пастановай, міліцыянты мусілі правесці ператрус у рэдакцыі выдання, а таксама па месцы жыхарства яго рэдактара, з мэтай выяўлення «прыладаў злачынства». Па словах Анатоля Букаса, міліцыянты мелі права канфіскоўваць валюту і каштоўнасці.

Візіцёры забралі з сабой усю аргтэхніку: камп'ютары, у тым ліку бухгалтарскі, прынтар, фотаапараты і нават такую прыладу злачынства, як факс. «Забралі ўсё, што неабходна для вёрсткі газеты», — расказаў рэдактар. А таксама флэшкі і дыскі.

Выхад газеты ў выніку ператрусу і вымання тэхнікі апынуўся пад пагрозай. Чарговы нумар газеты мусіў быць падпісаны ў друк у аўторак, 11 студзеня, а 13-й. «Зраблю ўсё магчымае, каб выдаць гэты нумар», — паабяцаў сп. Букас.

Міліцыянты мелі права канфіскоўваць валюту і каштоўнасці.

Нагадаем, што раней аналагічныя ператрусы прайшлі ў рэдакцыі «Нашай Нівы», карпункце «Еўрапейскага радыё для Беларусі», у журналістаў «Белсата».

**СП**

# Абсурд: NRM выступіць без Вольскага


PHOTO.BYMEDIA.NET

Як стала вядома «Нашай Ніве», на «Рок-каранацыі» слаўны гурт выступіць без свайго саліста і заснавальніка.

Інфармацыю пацвердзіў гітарыст гурта Піт Паўлаў. Сам Вольскі ад каментара адмовіўся.

«Ён узяў «бестэрміновы неаплачваны адпачынак», — так патлумачыў Паўлаў. І дадаў, што будуць «сваімі сіламі» яго замяняць. Маўляў, у камандзе граюць яшчэ тры чалавекі. Разам з тым, музыкі не пакідаюць імавернасці ўдзелу Вольскага ў далейшай працы гурта.

«Рок-каранацыя» пройдзе 18 лютага.

**Кастусь Матушыч**

**Водгукі на сайце nn.by**

Я прывыкла думаць, што Вольскі там — дэміург. Паглядзім, што хлопцы могуць без яго. А Вольскі можа амаль усё.

**Filifionka**

Вольскі — гэта НРМ! Заўсёды праўду-матку рубіў і, спадзяюся, будзе рубіць! Спадзяюся, што ўсё будзе добра і гурт ізноў аб'яднаецца, бо сёння нам гэта патрэбна як ніколі.

**Саша**

Не чакаў ад яго такога. У маіх вачах ён апусціўся.

**Арцём**

Лявон без НРМ самадастатковы, хай замест НРМа ідзе на «Рок-каранацыю».

**Міхась**

# Прэзідэнцкі хакей: профі ў ролі аматараў

Калядны хакейны турнір выклікаў нечаканы рэзананс. Нагадаем, у вырашальнай гульні каманда Аляксандра Лукашэнкі саступіла расійцам — 2:3.

На сайце Кантынентальнай хакейнай лігі з'явілася нататка, якая пралівае святло на абставіны гульні: «Аматарскі статус турніру не перашкодзіў гаспадарам з першага матча прыцягваць у склад каманды хакеістаў-прафесіяналаў, расійцам супрацьстаяла, фактычна, зборная клубаў Беларусі.

У пачатку другога перыяду ў дадатак да заяўленых 22 хакеістаў на лёдзе пад 73-м нумарам з'явіўся адзін з найлепшых бамбардзіраў Адкрытага чэмпіянату Беларусі, гулец мінскага «Юнацтва» Аляксандр Бараўкоў.

У пачатку трэцяга перыяду пад прозвішчамі Шыманскага і Уладыкіна з'явіліся яшчэ два прафесійныя хакеісты з мінскага «Юнацтва» — самы дзейсны абаронца Адкрытага чэмпіянату Беларусі Аляксей Баранаў і нападнік Максім Слыш. Перад трэцім перыядам былі змененыя і правілы — буліты скасавалі, а выдаленні былі вернутыя, расійскай камандзе з дапамогай беларускага арбітра давялося больш за хвіліну гуляць утрох супраць пяцёркі суперніка. Тым не менш, расейцы выстаялі».

Чаму ж не перамагаць у аматарскіх турнірах, калі палова каманды — прафесіяналы? Але гэтым разам не дапамаглі нават махінацыі з гульцамі. Відаць, давядзецца галоўнай суддзёй наступнага каляднага турніру прызначыць Лідзію Ярмошыну...

**Кірыл Букін, «Салідарнасць»**

# Як Пачобута ў КДБ спрабавалі разгаварыць

Гродзенскі журналіст сцвярджае, што яго білі ў часе гутаркі.

8 студзеня супрацоўнікі гродзенскай міліцыі схапілі журналіста і актывіста Саюза палякаў Андрэя Пачобута ля ўласнага пад’езда і адвезлі на «гутарку» ў КДБ на вуліцу Тэльмана. Там амаль праз дзве гадзіны яму ўручылі афіцыйнае папярэджанне пра недапушчальнасць супрацьпраўных дзеянняў за подпісам начальніка Упраўлення КДБ па Гродзенскай вобласці Івана Каржа. Журналіста папярэдзілі за ўдзел у «несанкцыянаваным пратэстным мерапрыемтве». Нагадаем, Андрэй Пачобут быў затрыманы 19 снежня 2010 г. на плошчы Незалежнасці. У судзе яго вызвалілі з-пад варты, заявіўшы пра неабходнасць дадатковай праверкі. Па вызваленні ён не выключаў, што гісторыя з затрыманнем на Плошчы будзе мець працяг.

«Усё было абстаўлена не па-дзіцячаму сур’ёзна, — піша А.Пачобут у сваім інтэрнэт-блогу. — Мяне аклікнуў незнаёмец, я павярнуўся, аднекуль ззаду выскачылі два спецназаўцы ў форме і схапілі пад рукі.

— Прайдзёмце! — гаркнулі і пацягнулі ў бус.

Па дарозе забралі мабільныя. Ведалі, што ў мяне іх два. Ужо ў машыне ўручылі пазоў у КДБ. Кожны мой рух выклікаў у іх нервовую рэакцыю, так што я адчуваў сябе надта важным злачынцам, які ў любы момант можа выцягнуць з кішэні шмайсер.

Машына ўшчыльную пад’ехала пад дзверы будынка КДБ на Тэльмана, 3. Выводзілі, трымаючы пад рукі. Абшукалі з дапамагой металашукальніка. Сустракаў супрацоўнік у чорным касцюме і ружовай кашулі. Яго чорны гальштук таксама меў нейкае гламурна-ружовае адценне. Я сам сабе пачаў называць яго «гламур».

Завялі ў кабінет на першым паверсе. У кабінеце сядзеў чалавек, у твары якога было нешта «заечае». Гатовы паспрачацца на бутэльку лідскага квасу, што ў дзяцінстве яго так і называлі — заяц. Я для сябе таксама пачаў называць яго «заяц».

«Заяц»: Андрей Станіславовіч, хотелі бы с вамі поговоріть насчёт 19 декабря.

Я: Хочу адвоката.

«Гламур»: Это не допрос, это беседа в рамках закона об Оперативно-розыскной деятельності.

Я: Імею права на адвоката. Без него я говоріть не буду.

«Гламур»: Вы былі 19 декабря в Мінске на площаді?

Я надоўга замаўчаў.

Яны спачатку не былі здзіўленыя майму маўчанню і нерэагаванню на іхнія пытанні. Аднак час ішоў, я маўчаў. Яны пачалі нервавацца. Першымі нервы не вытрымалі ў «Гламура».

— Встань. Я сказал — встань, я не позволю тебе ломать государственное імущество, — зароў ён.

Я устаў з крэсла. Але на пытанні і надалей не адказваў. «Заяц» выйшаў з пакоя. «Гламур» падышоў да мяне ледзь не ўпрытык і сталёвым голасам пачаў на мяне наязджаць у духу «мы яшчэ добрыя, але зараз будзем злымі». Я глядзеў яму ў вочы і маўчаў. Ён лёгка пляснуў мяне далонню па твары.

— Вот этого не надо делать, — раўкнуў я, схапіўшы яго за руку.

— Я хотел проверіть, всё лі с тобой в порядке, — сказаў ён.

Ён і надалей стаяў упрытык да мяне. Нечакана рэзка паднёс руку да свайго носа. Як я разумею, рэзкі рух павінен быў мяне спалохаць. Але я і надалей маўчаў.

У гэты час у кабінент вярнуўся «Заяц».

— Можете сесть, — сказаў мне спакойным тонам «Гламур».

— Нечего было паднімать, — адказаў я і далей на працягу ўсяго шоу я стаяў.

— Ну как хочешь, — прымірэнчым тонам сказаў «Гламур».

Далей іхнія ролі падзяліліся. «Заяц» спрабаваў раскруціць мяне на размову, няўдала спрабуючы граць на маім эга.

— Ты трус. Ты герой, только когда прячешься за спінамі другіх. А когда прішло время ответіть за свої действія, ты даже нічего сказать не можешь. Язык проглотіл? Со страху? Светіт тебе от 3 до 8 лет за участіе в массовых беспорядках. В тюрьме із тебя сделают голубого, — балбатаў «Заяц».

Апошняе мяне надта развесяліла, і я стаў пасміхацца. Падумалася, што ўзровень «Зайца» не вышэйшы за нейкі задрыпаны райаддзел міліцыі. Там надта любяць палохаць затрыманых менавіта апусканнем у турме.

— Что, думаешь, это невозможно? — па-філасофску спытаў «Заяц».



АЛЕСЬ ПІЛЕЦКІ

Будынак КДБ у Гродне.

Я працягваў маўчаць.

«Гламур» граў ролю філосафа і спрабаваў мяне раскруціць на размову пра тое, што я доўга да гэтага ішоў і прычыны таго, што я цяпер знаходжуся ў КДБ, ува мне. Карацей, яны проста хочуць ўратаваць маю душу.

Час ішоў. Я маўчаў, перамінаючыся з нагі на нагу. «Гламур» пачаў губляць цярпенне.

— Ты дурак? — пытаецца.

Мяне іхнія нервы надта весялілі, і я стаў і смяяўся. ГБульнік выйшаў. Цяпер прыйшла чарга наезду на мяне з боку «Зайца».

— Если бы я встретіл тебя на уліце, я бы быстро твою улыбку размазал, — злобна раўкнуў ён і, сарваўшыся з-за стала, падскочыў да мяне.

Ён кулаком ударыў мяне ў грудзі. Я стаяў практычна ўпрытык да крэсла і таму ўпаў. Ён пачаў кулакамі біць мяне па галаве. Я закрыў яе рукамі, але на злосць яму працягваў маўчаць.

Ён адышоў і сеў на сваё месца. Я ўстаў і павярнуўся да яго тварам, пачаў глядзець яму ў вочы. Майго позірку ён не вытрымаў. У гэты час у пакой вярнуўся «Гламур».

## Я маўчаў. Яны пачалі нервавацца.

— Твоі друзья в тебе расчаровалісь. У тебя нет друзей! Ну кто твоі друзья? Іх нет, — заявіў «Заяц» і працягнуў сваю думку: — Пісальнік раскрытыкаваў твой артыкул пра Буцьку (відаць, «Заяц» дрэнна рыхтаваўся да размовы і таму пераблытаў прозвішча. Хутчэй за ўсё, ён мог мець на ўвазе артыкул пра агента МГБ СССР Бульку). Калі і гэта не дало выніку, яны здаліся.

— Так, я думаю, нам пора заканчівать, — заявіў «Заяц» і з папкі дастаў паперу за подпісам генерала Каржа.

Ён яе прачытаў і спытаў, ці я яе падпішу.

— Чаму ж не, калі дасце копію, падпішу, — сказаў я і запытаўся, як яго (маецца на ўвазе «Зайца») прозвішча.

— Буду пісаць скаргу ў пракуратуру, — сказаў я.

— Олег Ніколаевіч Гріцавец, — адказаў «Заяц» і выйшаў з пакоя. «Гламур» сваё прозвішча назваць адмовіўся. «Заяц» праз некалькі хвілінаў вярнуўся з копіяй папярэджання. Я на іхняй паперы напісаў «Не согласен» і паставіў свой подпіс. ГБульнікаў выразна кілбасіла. Падчас размовы «Гламур» некалькі разоў спрабаваў перайсці на беларускую мову. Але я працягваў маўчаць.

— Пшол вон, — зашыпеў мне «Гламур».

— Следующій раз можете проводіть оператівно-розыскные беседы без меня. Поговорілі со стенамі і напісалі рапорты, — параіў я «Гламуру» на развітанне.

З ГБ выйшаў у 18.46».

Андрэй Пачобут склаў заяву ў пракуратуру. «Заяц» — рэальна небяспечны для людзей тып (дарэчы, пагражаў, што падпільнуе мяне ў горадзе і паб’е), — піша журналіст. — Думаю, не першы раз распускае рукі. Калі білі мяне, журналіста, дык звычайнага чалавека маглі б рэальна катаваць, прымушаючы весці размовы, не прадугледжаныя Крымінальна-працэсуальным кодэксам».

**СП; паводле poczobut.livejournal.com**

### Што рабіць, калі вас выклікалі «пагутарыць пра Плошчу»

каб самому не парушыць закон і перадухіліць незаконныя дзеянні ў дачыненні да вас.

Чытачы «НН» паведамляюць пра выклікі ў міліцыю на гутаркі. У адным з выпадкаў у чалавека спыталі, ці быў ён 19-га на Плошчы. Пачуўшы сцвярджальны адказ, выклікалі на гутарку. У другім выпадку, у дзяўчыны пацікавіліся, «чаму ваш мабільны тэлефон у пэўны час быў у пэўным месцы».

Што рабіць у падобных выпадках? Праваабаронца Валянцін Стэфановіч раіць у першую чаргу высветліць, у якім статусе вас выклікаюць на гутарку. Запрашэнне мусіць быць аформлена належным чынам: у дакуменце мусіць быць пазначана, па якой справе выклікаецца чалавек, у якім статусе, куды, у які дзень і час. Вуснае запрашэнне па тэлефоне не з’яўляецца афіцыйнай формай выкліку на гутарку.

Калі вы ўсё ж пайшлі на сустрэчу, атрымаўшы або не атрымаўшы належным чынам аформлены пазоў, варта памятаць, што згодна з арт.27 Канстытуцыі ніхто не можа быць прымушаны сведчыць супраць сябе. «Іншымі словамі, вы не абавязаныя адказваць на пытанне, што вы рабілі на Плошчы, — тлумачыць праваабаронца. — Можна проста казаць: я не буду адказваць на ваша пытанне, бо не абавязаны сведчыць пра сябе».

Каментуючы словы міліцыянтаў пра мабільны тэлефон, Валянцін Стэфановіч падкрэсліў, што гэта не з’яўляецца простым доказам удзелу ўласніка тэлефона ў пэўных падзеях у пэўным месцы: «Чалавек мог быць у той момант на плошчы Незалежнасці ў адным з начных клубаў. Гэта яшчэ нічога не даказвае».

**Сямён Печанко**

# «Ну вот что тебе нужно, тебе деньги нужны? Сколько?»

Удзельнік падзей 19 снежня Сяргей Паўлюкевіч распавёў пра спробу завербаваць яго.

Ператрусы ідуць не толькі ў лідараў апазіцыі, але і ў простых людзей з актыўнай грамадскай пазіцыяй.

Сярод іншых,ператрэслі кватэру адміністратара суполкі «Мы за Вялікую Беларусь» на сайце vkontakte.ru Сяргея Паўлюкевіча. Канфіскавалі камп’ютар.

«Праглядалі мой камп’ютар. Адзін з іх адказаў, што шукаюць фота- і відэаматэрыялы з плошчы. Я прапанаваў сам паказаць усё. Яго калега гатовы быў пакінуць камп, бо мая сястра сказала, што ў яе на камп’ютары знаходзіцца ўся інфармацыя для падрыхтоўкі да экзаменаў. Але адзін КДБіст заўпарціўся і не захацеў пакідаць камп».

Са словаў юнака, сярод гэбістаў былі два чалавекі, якія спрабавалі завербаваць яго ў ізалятары на Акрэсціна.

Сяргей, студэнт юрфака БДУ, правёў дзесяць сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у пратэстах супраць фальсіфікацыі выбараў. Вось што ён расказаў:

— На чацвёрты ці пяты дзень зняволення нас, прыблізна сем чалавек, павялі з камеры на допыт да следчых. Мы прабылі там каля паўтары гадзіны. Дапытвалі наконт плошчы. Калі мы вярнуліся ў камеру, то заўважылі, што нашы рэчы абшуквалі. Мы баяліся, што могуць што-небудзь падкінуць, а потым сказаць, маўляў, свеціць нам за гэта пару гадоў турмы. Абышлося. А праз хвілінаў дзесяць мяне выклікалі без рэчаў. Страшна было спачатку, бо я зразумеў, што вядуць да КДБістаў. Не памыліўся. Іх было двое ў пакоі.

«Ну всё, Сергей, ты попал. Ты знаешь, что возбуждено уголовное дело по факту госпереворота?» — пачалі яны. Але ў нас ужо была прэса праз перадачы і мы ведалі, што заведзена крымінальная справа па факце «масавых беспарадкаў». Я паказаў сваю дасведчанасць.

«Вот когда я дам тебе по морде, разговор по-другому пойдёт».

Але не білі. Круцілі-круцілі, а потым пачалі шантажаваць. Маўляў, ці гатовы я ў войску служыць. Пасля пачалі пагражаць, што КДБ можа стварыць мне і маёй сям’і праблемы, адлічыць мяне і маю сястру з універсітэта. А калі ўбачылі, што гэта не дзейнічае, загаварылі па-іншаму. Я запытаўся, што яны ад мяне хочуць. Каб я даў для БТ нейкае інтэрв’ю? Каб ілжэсведчыў супраць кандыдатаў?



**Сяргей Паўлюкевіч**

за ўдзел у Плошчы быў асуджаны на дзесяць сутак адміністрацыйнага арышту. Пасля вызвалення ў яго на кватэры правяліператрус, падчас якога забралі камп’ютар. Сяргей з’яўляецца адміністратарам суполкі «Мы за Вялікую Беларусь» на сайце vkontakte.ru. Навучаецца на юрыдычным факультэце БДУ.

«Мы заинтересованы в поиске информации о Молодом Фронте, Литвинском клубе, Движении будущего и других национально-оппозиционных организациях, об этой пятой колонне, кто их финансирует, кто их реальная верхушка, чьи интересы они лоббируют и т.д.» Я ім кажу: «Значыць, вы спрабуеце мяне завербаваць у свае інфарматары, каб я «внедрялся» ў падобныя арганізацыі і «стучал» на іх?» Яны адказалі: «В принципе, ты правильно понял». Я адразу адмовіўся.

Яны кажуць: «Ну вот что тебе нужно, тебе деньги нужны? Сколько?» Прапаноўвалі дапамогу ў вырашэнні праблем на вучобе. Напрыклад, я тэлефаную ім і мне выкладчыкі паставяць любы залік і патрэбную адзнаку па экзамене.

«Если тебя беспокоит срок, то мы можем, например, заключить с тобой «сделку» сроком на 5 лет — в магистратуре, аспирантуре ещё поучишься, а потом, если захочешь и здоровье позволит, сможешь поработать некоторый срок в штате КГБ».

Я ўсё роўна адмовіўся. Мяне вывелі з пакоя. Але адзін з КДБістаў выйшаў за мной і спытаў, ці буду я каму расказваць аб нашай размове. Я пацвердзіў. «Неужели вот так любому встречному на улице расскажешь?» — «Так»...

**Кастусь Матушыч**

# Аўтастопам ад Нью-Ёрка да мыса Горн. Частка ІІІ. Гватэмала-нелегал

Яны пpыляцелі ў Нью-Ёрк у красавіку без цэнта ў кішэні. З сабой маюць спальнікі, лекі і табурэт, які прысягнулі паставіць на мысе Горн. А яшчэ гітару, скрыпку ды трубу, з дапамогай якіх зарабляюць па дарозе. За сем месяцаў яны прайшлі-праехалі аўтаспынам і пехадралам усе ЗША, Мексіку, цэнтральнаамерыканскія Гватэмалы і Гандурасы. «Наша Ніва» публікуе захапляльныя падарожныя дзённікі Аўгіні Манцэвіч. Трое беларусаў ладзяць аўтастоп праз абедзве Амерыкі. Гэта **Кірыла Краўцоў** — капітан каманды, фатограф, трубач. Гэта **Аўгіня Манцэвіч** — журналістка, скрыпачка, акрабатка і аўтарка гэтага дзённіка. Гэта **Верасень** — аператар, гітарыст.

**Усё сваё нашу з сабою**

Чым далей прасоўваецца падарожжа, тым больш разумею, што многія рэчы, якія я ўзяла з сабой у падарожжа ў 55-літровым заплечніку, мне проста непатрэбныя. За час дарогі я раздарыла шмат: штаны, майкі, кофты, шкарпэткі, каструлю, мыла і кучу іншага хламу.

Асноўным аблягчэннем было — пазбавіцца ад намёта. Аднойчы ў Гандурасе мы вырашылі, што ўсё роўна не карыстаемся ім, а спім заўсёды ў мясцовых. І аддалі расійскай табурэтнай камандзе. Сёння мой заплечнік запоўнены толькі напалову.

— Адзенне. Пакет з балоневай курткай і кофтай паляртэк. У другім пакеце тэрмабялізна, сарафан, штаны, шорты, дзве маечкі, чацвёра трусоў, станік, двое шкарпэтак, шапка, шалік, вышыванка (штосьці з гэтага заўсёды, вядома ж, на мне). Красоўкі і шлёпкі (адно з гэтага заўсёды на мне).

— Кубак, тэлефон (цяпер служыць выключна як калькулятар, будзільнік, канвертар і каляндар), ліхтарык, блакнот і 2 ручкі, флэшка на 8 Гб, нажніцы і пілка для пазногцяў, запальнічка, флікер, компас, чорныя ніткі з іголкай, плэер з навушнікамі (з аўдыёкурсам іспанскай мовы), лыжка, відэлец, нож, запасны набор струнаў для скрыпкі.

— Фоцік, зарадныя для тэлефона, відэакамера, нэтбук (відэакамеру і нэтбук носіць Верасень), USB-шнур, дыктафон (які служыць яшчэ і картрыдарам), запасныя флэшкі для фоціка.

— Гігіенічны набор. Спіртавы гель для дызінфекцыі рук, зубная паста і шчотка, брытва, шампунь, дэзадарант, крэм, зубная нітка, гігіенічная памада, тампоны, шматок туалетнай паперы.

— Аптэчка (другую палову лекаў носіць Верасень).

— Дыванок, спальнік, ручнік, папка з дакументамі.

— Фляга з вадою, скрыпка і, вядома ж, табурэт (які мы з Вераснем і Кірылам носім па чарзе).

















Працяг. Пачатак у №46, 47 за 2010.



Мяжу з Гватэмалай мы адразу вырашылі праходзіць нелегальна. Па-першае, сваю мексіканскую візу мы пратэрмінавалі на пяць дзён. Па-другое, на выездзе з краіны мексіканцы дзяруць па 20 баксаў з чалавека. Ну і акрамя таго, увесь час мы былі ўпэўненыя, што з амерыканскай візай нам і гватэмальская таксама не патрэбная. Аднак у дзень пераходу мяжы мы даведаліся, што віза беларусам неабходная. Усё гэта прымусіла нас вырашыцца на нелегальны ўваход у Гватэмалу.

Нас высадзілі кіламетраў за пяць да мяжы. Машынаў на дарозе амаль няма. Пайшлі пешшу. Пад'язджае маршрутка. «Франтэра. Лінія. Гватэмала», — кліча нас маршрутны зазывала. «Но, грасіяс», — па старой звычцы адказваем мы. «Райд. Граціс», —настойвае ён. «Бясплатна?» — перапытваем, не верачы. Той ківае галавою, і мы едзем у бок Гватэмалы.

### Мяжа ў выглядзе спячага паліцэйскага

Праз хвілінаў дзесяць маршрутка спыняецца пасярод горада перад «ляжачым паліцэйскім». Выходзім. Гэта што — мяжа? Відаць, так. І пакуль ніхто не звярнуў увагі на нас, нагружаных заплечнікамі і інструментамі, мы спяшаемся ў глыб горада.

На кожным кроку нам прапаноўваюць памяняць грошы альбо купіць якую-небудзь фігню. А мы ўпарта падымаемся ўгару і толькі адказваем: «Но, грасіяс». «Няўжо мы ўжо ў Гватэмале?» — не верыцца нам. Разглядаем нумары машынаў — гватэмальскія. А вось і бела-блакітны сцяг Гатэмалы лунае. Мы тут.

### Шлях да Кецальтэнанга

Ужо за горадам спрабуем стопіць, каб да цемры дабрацца хоць да якога горада. Праязджаем кіламетраў дзесяць і апынаемся ў нейкім маленькім мястэчку. Неба блішчыць маланкамі — ставіць намёт рызыкоўна. Ідзём прасіцца да мясцовых. У першай хаце нам адмаўляюць у прытулку. Але ў другой, нічога не адказаўшы на нашую просьбу, пачалі разграбаць месца пад дахам для нашай палаткі.

Нашых песень гаспадары таксама доўга не чакалі. Затым ізноў жа моўчкі яны вызвалілі для нас асобны пакой ды пакармілі кукурузнымі тарцільямі* з бобам і яйкамі. Раніцай пасля сняданку (тарцільі і яйкі) мы працягнулі свой шлях у Кецальтэнанга — найбліжэйшы вялікі горад.

### Кантрабанда яек

Шлях да Кецальтэнанга выявіўся зусім не блізкім. Горная дарога, размытая дажджамі ды апоўзнямі, патрабавала больш часу. На старэнькім грузавіку разам з Гербэрам мы праехалі яшчэ каля 100 кіламетраў.

Шэсць гадоў Гербер працаваў у ЗША на будоўлі, зарабіў грошай, вярнуўся ў Гватэмалу, купіў грузавік і цяпер кантрабандай возіць яйкі з Мексікі.

«Бачыце, паліцыя едзе за намі?» — пытаецца ён. «Гэта не паліцыя», — супакойваем мы. «Паліцыя, я ведаю, — упэўнівае нас Гербер. — Вось гэта хабар за мексіканскія яйкі, якія я вязу». Ён паказвае на тры кучкі грошай, роўна раскладзеныя перад ім.

Тут машына ззаду абганяе нас і прымушае спыніцца. Гербер выходзіць «паразмаўляць». Праз пару хвілінаў вяртаецца: «Кьерэн мас» (хочуць больш) і адлічвае яшчэ некалькі купюраў кецаляў (мясцовая валюта).

### Рэстаран жаданняў

Гербер ужо некалькі год займаецца нелегальным яйкавым бізнэсам. Яго і ягоную машыну тут ведае кожны паліцыянт і не прапускае магчымасці садраць з гарабізнэсмэна бабла. Гербер жа, у сваю чаргу, ведае кожны паліцэйскі пост і перад імі зачыняе танаваныя вокны і стараецца як мага хутчэй прашмыгнуць.

Гербер, у шоку ад нашых песень, тэлефануе свайму бацьку і кажа: «Паслухай, паслухай». А потым запрашае нас да сябе паспяваць. Мы згаджаемся.

«Вось там, — паказвае нам Гербер на хатку высока ў гарах, — мой дом». Мы прыязджаем у агоны дом, а там — сям'я з дванцаці пяці чалавек. Жанчыны ў нацыянальных строях. Усе нас вітаюць, махаюць рукамі і просяць сыграць.

Пасля невялікага канцэрта бацька сямейства прапануе застацца ў іх да заўтра. Мы пагаджаемся. Нас вядуць паесці ў сямейны прыдарожны рэстаран. За два дні, якія мы пабылі з сям'ёй, у рэстаран зайшла толькі адна пара. Аднак ім пофіг. Жанчыны ўсё адно цэлымі днямі сядзяць на кухні, лепячы тарцільі і смажачы нелегальна прывезеныя іхнімі мужчынамі мексіканскія яйкі на ўсю сям'ю з дванцаці пяці чалавек.

* Ляпехі.

### Гватэмальскія харызматы

Сем'і ў гватэмальскіх вёсках — велізэзныя. Тут у сярэднім па 10—16 дзяцей. Жывуць вельмі бедна, ядуць адну кукурузу, тарцільі, боб і яйкі, аднак дзяцей нараджаюць спраўна. А тыя ўжо гадоў з пяці пачынаюць працаваць у полі, на рынку, дзе заўгодна, каб забяспечваць сям'ю.

Удзень нас павялі ў іглесію (царкву). Вельмі дзіўнае відовішча. Каля двухсот індзейцаў мая ў каляровых нацыянальных строях, якія дома размаўляюць на мове какчыкэль, у новазбудаванай евангелісцкай царкве сядзяць на белых пластыкавых крэслах і слухаюць нейкага дзядзьку ў касцюме і гальштуку, які, разрываючыся, штосьці эмацыйна ледзь не крычыць у мікрафон паіспанску. Затым усе разам пачынаюць пець песні пад сінтэзатар, па адным увакодзіць у транс і затым плачуць і моляцца, галосяць і кленчаць.

Паміж сеансамі агульнага трансу мая абарочваюцца на нас і з цікавасцю разглядаюць. Мы тут адзіныя белыя. Пастар штосьці гаворыць пра «амігас дэ Русія», «грынгас», а затым аб'яўляе чарговую песню: «Б'енбэнідас а Гватэмала». Раптам пасярод песні мяне хтосьці папляскаў ззаду па плячы. Абарочваюся — жанчына з чорнымі вачыма працягвае да мяне рукі, каб абняцца. Мы абдымаемся, я ўдыхаю сыры пах яе вопраткі, яна кажа мне «Б'енбэнідас» (вітаю) і ўсміхаецца. Затым адзін за адным абняцца са мной падыходзяць іншыя людзі. Гляджу — з Верaснем адбываецца тое ж самае. І так некалькі разоў на працягу песні.

Вельмі дзіўна, як гэтым маленькім індзейцам мая ўлезла ў галаву гэтая вялікая чужая рэлігія. На чужой мове яны моляцца чужому богу. Магчыма, мая запалоханыя шматгадовым праследам каланізатараўхрысціянаў. Нават сёння той, хто не ходзіць у царкву, лічыцца ізгоем.

### Месца, дзе вясёлка набывае колеры

На возера Атытлан мы прыехалі па рэкамендацыі Кірыла і Лёні, якія там пабывалі. «За 20 кецаляў пераплываеце на лодцы да Сан-Маркаса, а там спытаеце дом Фелікса».

Фелікс — немец, які ўжо некалькі гадоў бадзяецца па Лацінскай Амерыцы ў пошуках сябе. Ён любіць расказваць, як патрапіў на гватэмальскі Атытлан.

«Я тады працаваў у мексіканскім бары. У той вечар прыняў штукі тры розных наркотыкаў і не мог спыніцца ад плачу. Мае вусны ўсміхаліся, а па шчоках ручаём цяклі слёзы. І я нічога не мог з гэтым зрабіць. І тут да мяне падышоў адзін чалавек і сказаў панямецку: «Фелікс, я бачу, што ты — анёл. Але ты зараз знаходзішся не ў той час, не ў тым месцы. Паехалі са мной». І Фелікс паехаў. Новы сябра прывёз яго на Атытлан.

Атытлан — сапраўды магічнае месца. У перакладзе з мовы мая абазначае месца, дзе вясёлка набывае колеры. Знаходзіцца возера ў даліне паміж трыма вулканамі на вышыні паўтары тысячы метраў. Вакол возера — маленькія гарадкі, у якія патрапіць можна толькі на лодцы.

### Хіпарскі рай

Спакон веку тут жылі плямёны мая. Аднак пару дзясяткаў гадоў таму месца аблюбавалі хіпі з усяго свету. Некаторыя з іх купілі каля возера кавалак зямлі, пабудавалі дамы і жывуць тут сярод мясцовых, гадуюць дзяцей.

Тэры прыехала ў Сан-Маркас шаснаццаць гадоў таму. Пабудавала хату на дрэве, не ссекшы з яго ніводнай галінкі. Упершыню пабачыўшы гэтыя дзікія зараснікі авакада, ніколі не падумаеш, што тут усярэдзіне стаіць яе хата. Сама Тэры жыве з прыбытку ад свайго гатэля, які знаходзіцца насупраць.

Сустрэўшы нас, пастарэлая амерыканская хіпі адразу ажывілася: «Мой бацька родам з Расіі». «З якога горада?» — пытаемся мы. «З Мінскай губерні». Так Тэры даведалася, што яна беларуска.

З кожным годам у Сан-Маркасе ўсё больш турыстаў. Індзейцы мая, адчуўшы смак буржуйскіх грошай, захацелі памножыць сваё багацце. Цэны на прадукты ўзраслі, будуюцца ўсё новыя гатэлі. Мясцовы хлопчык, які адразу ж, як мы толькі вылезлі з лодкі, пагадзіўся паказаць нам хату Фелікса, папрасіў узнагароду за сваю дапамогу. «Пор коміда (на ежу)», — удакладніў ён.

У нас на дваіх з Верaснем заставалася 10 кецаляў у кішэні (крыху больш за бакс). Я сунула нашаму новаму сябру 75 цэнтаў. «Муі покіто», — паскардзіўся хлопчык. І папрасіў яшчэ манет з нашай краіны. «Для маёй калекцыі», — удакладніў. Дзіўным чынам у мяне яшчэ з Беларусі завалялася пару еўра, якія я і аддала.

Фелікса дома не аказалася. І мы вырашылі пачакаць яго ў двары. Хата Фелікса знаходзіцца на гары. Кожную раніцу з вокнаў тут можна назіраць цудоўны ўзыход сонца над возерам. У хаце няма электрычнасці, на падворку — месца для вогнішча.

Пакуль чакалі Фелікса, прагаладаліся. Пайшлі ў горад у пошуках ежы. Трэба выжыць тут, удалечыні ад вялікай зямлі, за бакс. Цэлы дзень мы з Верaснем займаліся збіральніцтвам — падбіралі авакада, рвалі кукурузу і гатавалі есці на вогнішчы. Вечарам Фелікс так і не вярнуўся. І мы паставілі намёт ды леглі спаць.

На наступны дзень, калі варылі чарговую порцыю кукурузы, да нас завітаў светлавалосы хлопец з блакітнымі вачыма. Пабачыўшы нас, ён узрадаваўся, абняў нас і сказаў, што рады нам. Гэта быў Фелікс.

Ён расказаў, што возера з кожным годам становіцца ўсё больш брудным. Мясцовыя зліваюць туды каналізацыю. Горныя рэкі нясуць за сабою ў Ацітлан увесь выкінуты пластык. Многія ўжо не рызыкуюць там купацца. Аднак пакуль месца ўсё яшчэ прыносіць асалоду, хіпі з усяго свету прыязджаюць сюды. Кожны па сваё.

Штодзень у Сан-Маркасе праходзяць майстар-класы: ёга, магія, масаж, ігра на барабанах. Усё гэта — абсалютна бясплатна ад майстроў і знаўцаў. Нам пашчасціла патрапіць у цікавую тусоўку маладых хіпі. Кожны дзень — новыя майстар-класы, песні і размовы каля вогнішча.

### Гватэмальскае безграшоўе

Пасля возера Атытлан у нас не засталося ні капейкі наяўных грошай. У Гватэмале мы планавалі прабыць яшчэ не больш за два дні. Здымаць кецалі з банкаўскай карткі за немалую камісію не хацелася. І мы вырашылі працягнуць падарожжа без грошай.

**Паводле euroradio.by**

Працяг будзе. На сёння падарожнікі дайшлі да «сранага Перу», як выказалася аўтарка ў сваім апошнім лісце ў Рэдакцыю.

**Аўгіня Манцэвіч**

нар. у Вілейцы ў 1985. Журналістка, блогерка, пісьменніца. Пераможца конкурсу маладых літаратараў імя Уладзіміра Караткевіча ў 2005. Аўтарка кнігі «Графіка». Жыве ў Мінску. Дачка рэдактара «Рэгіянальнай газеты» Аляксандра Манцэвіча. Сястра журналісткі і паэткі Насты Манцэвіч.

**Верасень**

Нар. у Гомелі ў 1985. Скончыў Варшаўскі ўніверсітэт, факультэт геалогіі. Захапляецца фатаграфіяй. Меў персанальную выставу ў Нью-Ёрку. Муж Аўгіні Манцэвіч.

**Кірыла Краўцоў**

Нар. у Гомелі ў 1979. Фатограф. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт транспарту, факультэт эканомікі. Дырэктар «Дызайнерскай студыі Кірылы Краўцова» ў Гомелі.

## РЫГОР БАРАДУЛІН

УЗЯТЫЯ НА СМЕРЦЬ ПАВІННЫ ЖЫЦЬ

Ратуй узятых на смерць,
і няўжо адрачэшся
ад вырачаных на згубу?
**Прыпавесці Саламона**
**24:11**

Узятыя на смерць павінны жыць.
Яны прыйшлі ў жыццё,
Каб цемра знікла.
Каб д'яблавы ашчэраныя іклы,
За ганьбу помсцячы,
Ушчэнт скрышыць.
Дай моцы духу
Ратнікам святла.
Рашучыя не могуць быць рабамі.
Хай здрайцы ў дол пакоры
Б'юць ілбамі,
Трывацьме непахіснасці скала.

Не памірае праведная кроў,
Яна ў вяках
Не ведае сутрыму.
Злу непадлеглую сваю Радзіму
Світальна
Бачаць вочы вяроў!..

*2 студзеня 2011*

**Рыгор Барадулін**

нар. 24 лютага 1935 пад Ушачамі. Народны паэт Беларусі.





## АЛЕСЬ КІРКЕВІЧ

ПАД РАСТВО НАРАДЗІЛАСЯ НАЦЫЯ

Пад Раство нарадзілася Нацыя
Паміж парашай і закратаваным акном.
«Народ прынёс дары, — гучыць па рацыі, —
Апроч сцягоў ды смірны… прыхаваны лом».
Ідзе хапун. Гарыць звязда. Згасае знічка пакрысе.
Таўкуць жанчын. Таўкуць ваўкоў. Жанчын паболей…
Хто мог — сышоў. Змаглі не ўсе.
«Даволі, — запытаеш, — ці ДаКолі?»
Я адкажу: «Да Волі!»

**Алесь Кіркевіч**

Жыве ў Гродне. Верш напісаны ў часе арышту на Акрэсціна. Кіркевіча чакае другі суд, у Гродне, за «арганізацыю неснакцыянаванага мітынгу» ў часе перадвыбарнай сустрэчы з кандыдатамі Статкевічам і Усам 16 снежня.

## МАРЫЯ НОВІКАВА

ЧАМУ ДЗЕД МАРОЗ
СПАЗНІЎСЯ Ў 2011-М

Па белай-белай прасціне
Заснежанага поля
Мароз кіруе да мяне —
Чырвоны, як ніколі.
Я да яго: — Дзядуля, што?
Чаму ўвесь ты ў «мыле»?
— Ды нейкія за паліто
На вуліцы злавілі.
З плячэй маіх садралі мех
І — барадой мяне у снег.
Крычаць, што там, пад барадой,
Хаваю твар зусім не той,
Нібыта быў на Плошчы
Дваццатага, уночы...
Згаджаюся: «На плошчы быў...
Але ж акон зусім не біў.
Хіба намаляваў прыкол
На шыбе заінелай...»
А мне: — Падпісвай пратакол!
Ррраз! І прышылі «дзела»!

***

Мігценне елкавых гірлянд
Пад галасы артыстаў модных...
А снег, не ўпаўшы на зямлю,
Зрабіўся ўжо мінулагоднім.
Ён засыпае гарады:
Высоткі хмурыя і плошчы —
На чалавечыя сляды
Стамлёны Бог глядзець не хоча.
На плошчу Нашых Вольных
Сноў,
Пад ногі ідалаў і елак,
Жывая пралілася кроў —
Чырвоная на снезе белым.
І ў тэлевізары ізноў
Мана, як снегавей густая.
Але з-пад сажы чорных слоў
Жывая чырвань прарастае.
І на зямлі ўжо новы год.
І новы дзень расплюшчыць
вочы.
О Божа! Блаславі народ
На бел-чырвона-белай
Плошчы!

**Марыя Новікава**

скончыла педуніверсітэт імя Максіма Танка, працуе ў школе мястэчка Самахвалавічы пад Мінскам. Арганістка касцёла святых Сымона і Алены. Пераможца конкурсу бардаўскай песні радыё «Свабода».

БІБЛІЯТЭКА

# Легенда пра Паўлюка Багрыма і рэальны лёс Ігнацыя Яцкоўскага, цікавейшы за легенду

### З'явіўся беларускі пераклад кнігі Ігнацыя Яцкоўскага «Аповесць з майго часу, альбо Літоўскія прыгоды».

Менавіта ў гэтай кнізе даследчыкі на пачатку XX ст. знайшлі верш «Заграй, заграй, хлопча малы», аўтарства якога прыпісалі Паўлюку Багрыму.




**Ігнацы Яцкоўскі. Аповесць з майго жыцця, альбо Літоўскія прыгоды** / Укладанне, пераклад, пасляслоўе і каментар Міколы Хаўстовіча. — Варшава, 2010. — 290 с.

Каваль Паўлюк Багрым сапраўды зрабіў жырандолю, якую можна пабачыць у Крашыне, а хрэстаматыйны верш напісаў паўстанец-эмігрант Ігнацы Яцкоўскі.

Легенда пра таленавітага паэта, якога за беларускі верш падлеткам забралі ў рэкруты, узнікла таму, што «Аповесць з майго часу...» лічылі мемуарамі. Але пераклад кнігі на беларускую мову пераконвае, што гэта мастацкі твор, гэта драма з прыгодніцкімі элементамі. Тут і каханне, і ўцёкі з расійскім гусарам...

«...Калі на самым досвітку каляска панства Войскіх пад'язджала да касцёла, ксёндз-пробашч Магнушэўскі ўжо пачаў набажэнства, калі ж ён зацягнуў звычайны ў гэтым выпадку гімн «Тваё, Хрысце, уваскрэсенне!», тры наладаваныя порахам марціры далі залп на дзядзінцы, і спужаныя коні панства Войскіх панеслі. Стары Гжэсь, фурман, знянацку не здолеў даць рады, а лямант дзвюх дам у калясцы, выклікаючы яшчэ большае замяшанне, пагаршаў сітуацыю; тут расійскі гусарскі афіцэр, малады і зграбны...» і далей усё, як у любоўным рамане.

А здарылася гэта ля касцёла ў Крашыне, і аўтар мае нагоду распавесці пра бунт сялян, які тут колісь адбыўся, пра следства. Так на старонках з'яўляецца і сапраўдны ксёндз Магнушэўскі, і выдуманы ягоны вучань Пётрак, які чытае славуты верш: «Заграй, заграй, хлопча малы».

Легенда пра Паўлюка Багрыма доўгі час засланяла цікавейшую за любую легенду гісторыю пра лёс самога Ігнацыя Яцкоўскага.

36-гадовы навагрудскі адвакат вясною 1831 года далучыўся да Літоўскага паўстання, потым — 25 гадоў эміграцыі. Яго «Повесць з часу моего, чылі Пшыгоды літэвске» выйшла па-польску ў Лондане ў 1854 годзе, у эмігранцкім асяродку ў друкарні Аляксандра Рыпінскага. Падрабязна пра гэта ў пасляслоўі да беларускага выдання «Аповесці...», якое называецца «Нялёгкая дарога дадому», піша даследчык Мікола Хаўстовіч. А беларускі пераклад «Аповесці...» з'явіўся ў Варшаве ў канцы 2010 года. Такою самаю, як у прыжыццёвым выданні, засталася вокладка кнігі. Адметнасць яе ў тым, што на ёй няма прозвішча аўтара. Каб адкрыць аўтарства «Аповесці з майго часу...», даследчыкам спатрэбілася сорак гадоў.

**Ганна Гарачка**

# Літоўскі погляд на бітву пад Грунвальдам

### Беларускамоўнаму чытачу падарылі спрэчную кнігу.

У юбілейны год публікацый на гэтую тэму было шмат, аднак праца літоўскага гісторыка Мечысловаса Ючаса беларусам запомніцца надоўга. Асабліва такім, якія шчыра называюць Вітаўта беларускім князем, а перамогу пад Грунвальдам лічаць спробай заснавальнікаў Полацка падпарадкаваць сабе Еўропу.

Мечысловас Ючас піша зусім аб іншай Грунвальдскай бітве. Для яго яна — частка шматвекавога супрацьстаяння балцкіх і нямецкіх плямёнаў. А таксама бэкграўнд асабістага канфлікту Вітаўта і Ягайлы.

Ючас — дастаткова знакаміты ў Літве даследчык для таго, каб «Грунвальдскую бітву» можна было назваць афіцыйнай літоўскай версіяй. І ў гэтай версіі месца для беларусаў мала. Цікаўныя могуць паспрабаваць знайсці згадкі аб ролі славянскай часткі насельніцтва ВКЛ у вайне з крыжакамі. Аўтару гэтых радкоў не ўдалося. Як не ўдалося таксама знайсці спасылкі на працы беларускіх гісторыкаў.

Кнігу варта мець усім, хто хаця б крышку цікавіцца гісторыяй ВКЛ. Яна дасць магчымасць пабачыць гісторыю Вялікага Княства літоўскімі вачыма.

Пытайцеся ў распаўсюднікаў часопіса ARCHE і незалежных гандляроў.

**Алесь Пілецкі**




**Мечысловас Ючас, Грунвальдская бітва.** — Вільня: Інстытут беларусістыкі; Беласток, Беларускае гістарычнае таварыства, 2010. — 243 с.

# За кардонам Бацькаўшчыны

### Выйшлі ўспаміны выдатнага гісторыка Юрыя Туронка.

Адзін з найлепшых гісторыкаў Беларусі Юры Туронак (нар. у 1929) усё жыццё пражыў за межамі Беларусі. Маленства ён правёў у Дукштах (сёння — Дукштас), дзе працаваў загадчыкам бальніцы яго бацька, дзеяч нацыянальнага руху Браніслаў Туронак. Затым Дукшты адышлі да Літвы, год пабылі пад саветамі, а ў 1941 г. на тры гады трапілі пад нямецкую акупацыю. За першыя 15 гадоў жыцця аўтар пабачыў змену сямі ўладаў.

«Бацькі імкнуліся выхаваць сыноў у беларускім духу — прывіць ім веданне мовы і нацыянальную свядомасць. На сценах пакояў віселі партрэты Багушэвіча з вусамі, Купалы і Сваяка ў сутане, якіх я ўмеў пазнаваць яшчэ на руках у мамы або таты».

Пасля заўчаснай смерці ў 1938 г. Браніслава Туронка маці (Марыя), каб палегчыць жыццё, вырашыла вярнуцца на радзіму, на Беласточчыну.



Пасля вайны Юры Туронак скончыў Гандлёвую акадэмію ў Шчэціне. Затым перабраўся ў Варшаву, працаваў Замежнагандлёвай палаце і ў газеце Rynki Zagraniczne. Туронак за гэты час апублікаваў больш за 300 артыкулаў і ажыццявіў 50 замежных камандзіровак, прапагандуючы вырабы польскай прамысловасці.

Мала хто ведае, але Туронак доўгія гады быў... зацятым кантрабандыстам. З камандзіровак ён прывозіў у Польшчу, для перапраўкі ў Беларусь, забароненую эмігранцкую літаратуру. «Я дастаў часопісы ў Лондане, Парыжы і найбольш Жэневе, куды айцец Надсан загадзя перасылаў кнігі поштай у мой гатэль або прывозіў асабіста».

Так узорам літоўскіх кніга624 XIX ст. быў арганізаваны канал транспарту забароненай літаратуры.

Найбольш вядомай працай Туронка-гісторыка стала манаграфія «Беларусь пад нямецкай акупацыяй». Выдадзеная на аснове доктарскай дысертацыі, кніга стала бестселерам.

**Алег Гардзіенка**

**Юры Туронак. За кардонам Бацькаўшчыны: успаміны.** — Мінск: Медысонт, 2010, — 276 с. — (Бібліятэка часопіса «Беларускі гістарычны агляд»).

# Гэта і наша Рэч Паспалітая

Час забраць у палякаў манаполію на яе спадчыну. Эсэ **Алега Дзярновіча**.

Яшчэ не мінула і сотні гадоў, як спыніла існаванне Аўстра-Венгерская імперыя, Імперыя Габсбургаў. Манархія, якая грала першыя ролі на еўрапейскай сцэне, знікла, як планета Фаэтон, пакінуўшы пасля сябе метэарытны пас з новых дзяржаў, фантастычных ідэй і напаўзабытых падзей.

Мала хто з жыхароў гэтай дзяржавы быў ёй цалкам задаволены.

Венгры праз паўстанне дамагліся пераўтварэння імперыі ў 1867 у дуалістычную Аўстра-Венгрыю з шырокай аўтаноміяй ва ўнутраных справах, але так і не дасягнулі тады поўнай незалежнасці.

Аўстрыйцы былі раздражнёныя саступкамі, якія мусілі рабіць венграм.

Чэхі былі самай індустрыялізаванай нацыяй, але так і не дасягнулі ў ёй статусу, роўнага венграм, хоць таго доўга дабіваліся.

Для харватаў, славакаў і румынаў, якія насялялі землі Венгерскай кароны, венгерскі шавінізм быў горшым за аўтарытарызм Габсбургаў.

Аўстра-Венгерская манархія не перажыла Першай сусветнай вайны.

Але засталіся сімвалы. Вены — як музычнай сталіцы Еўропы. Венскі неўролаг і стваральнік псіхааналізу Зыгмунд Фройд паходзіў з Маравіі, з сям'і галіцыйскіх габрэяў. У Празе нарадзіўся трывожны талент Франца Кафкі. Галіцыя і Львоў сталі натуральнай базай для развіцця ўкраінскага нацыяналізму. У Аўстра-Венгрыі была выпрацавана свая версія стылю мадэрн — сэцэсія, якая аб'ядноўвае архітэктуру Вены, Прагі, Чарнаўцоў і Будапешта.

Як бы там ні было, венскім палітыкам удавалася доўга ўтрымліваць кампраміс між такімі рознымі народамі імперыі. Мастацтва кампрамісу нарадзіла фенаменальную культуру. Ніхто з жыхароў гэтай дзяржавы не быў ёй задаволены, але ў іх нашчадкаў нарадзілася пачуццё настальгіі па той краіне. Мне бачыцца тут, няхай і аддаленая, але аналогія з Рэччу Паспалітай — з яе паразамі і яе дасягненнямі.

## Мы былі першыя

Скрозь на абшарах былой Рэчы Паспалітай мы знойдзем сляды лучнасці культурнай прасторы: магдэбургскія ратушы ад падрасійскага цяпер Вяліжа да падольскага Камянца; стылістыка барока, запачаткаваная ў часы Рэчы Паспалітай — ад фары ў Нясвіжы, першага помніка барока ва ўсёй дзяржаве, да другога такога ўжо ў Кракаве — касцёла Пятра і Паўла.

Грамадзянская культура ў Рэчы Паспалітай была прыналежнасцю не толькі шляхты, якую таксама называлі народам палітычным. Традыцыі самакіравання знітоўвалі мяшчанскія грамады. Мяшчанства ўдзельнічала ў палітычным жыцці, за ім цягнуліся эліты малых мястэчак.

Уласна, за грамадзянскія правы змагаліся і казакі, часам выходзячы за законныя рамкі.

Паводле ўласнага права, санкцыянаванага цэнтральнай уладай, арганізоўвалася жыццё габрэяў у кагалах, а таксама армян.

У часы Касцюшкавага паўстання ўсведамленне сваёй прыналежнасці да грамадства стала пранікаць і ў сялянскае асяроддзе.

Вядома, справядлівымі будуць дакоры да Рэчы Паспалітай, што ў ёй толькі абмежаваная колькасць насельніцтва валодала поўнымі грамадзянскімі правамі — ад 8 % да 10 %. Але не будзем забывацца, што ў суседняй Расіі ці магутнай Францыі тады панавала абсалютная манархія. Працэс сацыяльнай эмансіпацыі мог быць толькі паступовым, паслядоўна ахопліваючы розныя маёмасныя і гендэрныя пласты грамадства.

У Афінах Перыкла, рэспубліканскім Рыме, а таксама Англіі, Швейцарыі, Трансільваніі і Нідэрландах Новага часу колькасць грамадзян таксама не перасягала гэтых самых 10 % жыхароў. Яны надавалі кшталт палітычнай культуры і фармавалі межы выканаўчай улады.

У Францыі яшчэ ў 1831—1848 гг. выбарчым правам валодала ледзьве 1,5 % грамадзянаў, а ў Англіі ў 1832 г. атрымала яго 3,2 % жыхароў.

Ад XVI і аж да канца XVIII ст. у адной толькі Рэчы Паспалітай кіраўніка дзяржавы рэгулярна абіралі ўсе грамадзяне, надзеленыя правам голасу.

Рэч Паспалітая стала прытулкам для палітычных эмігрантаў і рэлігійных дысідэнтаў з усёй Еўропы — ад шатландскіх кальвіністаў у XVI—XVII стст. да расійскіх старавераў у XVII—XVIII стст.

Аж да канца існавання Рэчы Паспалітай яе крытыкі, а нават і ворагі, імкнуліся атрымаць тут індыгенат — прызнанне шляхецтва, а значыць, і ўсіх грамадзянскіх правоў, стаць дэ-юрэ грамадзянамі Рэчы Паспалітай. Сярод такіх новых грамадзян былі арыстакраты імперыі Габсбургаў, валадары і сануўнікі Малдовы, а таксама расійскія фаварыты Меншыкаў і Пацёмкін.



Ратуша — цвярдыня свабод — стаіць і ў Шклове.

## «Польшча» — не Беларусь

Пры ўсіх праблемах і пагрозах, звязаных з паланізацыяй эліт, ніводны народ Рэчы Паспалітай не страціў сваёй этнічнасці.

Адрозныя гістарычная свядомасць і мовы, асобнае права, уласныя традыцыі і матэрыяльная культура на працягу ўсяго існавання Рэчы Паспалітай спрыяла захаванню «малых айчын» — Польшчы, Літвы, Русі і Прусіі.

За часамі Рэчы Паспалітай у самой гэтай дзяржаве паняцце «Польшча» ніколі не распаўсюджвалася на Беларусь ці Украіну альбо ўвогуле на Вялікае Княства Літоўскае.

У часы паўстання Хмяльніцкага дайшло да ўзброенага канфлікту, што вымушаў жыхароў выбіраць паміж айчынай супольнай і ўласнай.

Большасць шляхты «рускай» на тэрыторыі Украіны (але не Беларусі) падтрымала казацтва і ўзняло вайну з Рэччу Паспалітай.

Меншасць, але такія фаміліі, як Вішнявецкія ды Заслаўскія, сталі на бок Рэчы Паспалітай.

Мастацтва кампрамісу нарадзіла фенаменальную культуру.

Кіеўскі ваявода і праваслаўны сенатар Адам Кісель, які па даручэнні караля вёў беспаспяховыя перамовы з Хмяльніцкім, выбіраў не паміж Польшчай і Украінай, а паміж Рэччу Паспалітай і казацтвам, якое, паводле яго думкі, нішчыла шляхецкую мадэль грамадзянскай дзяржавы.

«Пашырэнне Польшчы» на ўсход у свядомасці палякаў і часткі літвінаў адбылося ўжо пасля заняпаду Рэчы Паспалітай. Польскі сон і мары пра страчаныя вольнасці — асабістыя, грамадзянскія і дзяржаўныя — сканцэнтравалі ўвагу на гісторыі Рэчы Паспалітай, якая пад пяром паэтаў, літаратараў, пэндзлем мастакоў, але таксама і ў гістарычных манаграфіях рабілася ўсё больш «польскай».

У адказ на гэты польскі «гістарыяграфічны імперыялізм» беларусы, літоўцы і ўкраінцы абсякалі тое, што іх лучыла з Рэччу Паспалітай. Літоўцы і беларусы выбудоўвалі дзяржаўны сепаратызм ВКЛ і падкрэслівалі ўсе моманты, якія паказвалі на тое, што яны маглі аб'ядноўвацца з ворагамі Рэчы Паспалітай. Беларусы і ўкраінцы амаль выракліся сваёй шляхты і створанай ёю дзяржавы, прызнаючы за «сваю гісторыю» сацыяльныя бунты, казацкія паўстанні і ўсялякую палітычную і культурную дзейнасць, скіраваную супраць польскасці.

## Вярнуць Рэч Паспалітую сабе

Між тым, і нам, беларусам, ёсць чым ганарыцца за Рэч Паспалітую. Выдатнымі здабыткамі культуры, слаўнымі вайсковымі перамогамі. А таксама традыцыямі мясцовага самакіравання, парламентарызму, прававой дзяржавы.

Грамадзяне Рэчы Паспалітай перажывалі моманты трыумфу і канчатковай паразы. Але іх гістарычна-палітычны досвед складае істотную частку агульнаеўрапейскай дэмакратычнай гісторыі.



# Баі прафесіяналаў

**16 студзеня ў Broadway the club (пр. Машэрава, 17/1)** — баі прафесіяналаў К-1, Тай-бокс, ММА, Ушу-Саньда з удзелам чэмпіёнаў свету і Еўропы. **Пачатак а 18-й.** Даведкі: (017) 288-10-61.

## КАНЦЭРТЫ

### Таўкачыкі на Каляды

**13 студзеня на сцэне Белдзяржфілармоніі (пр. Незалежнасці, 50)** адбудзецца Вялікі святочны канцэрт-спектакль «Таўкачыкі на Каляды». У ім возьмуць удзел знакамітыя беларускія фолк-гурты **«Юр’я»**, **«Дзівасіл»**, **«Бан-Жвірба»**, этна-тэатр **«Мотальскія суседзі»**, студыя індыйскага класічнага танца **«Індывара»**, а таксама госці з замежжа — **Hoven Droven**, **Harald Petersson** (Швецыя), **Bartlomiej Lech Palyga** (Польшча).

### Ці спяе RockerJoker пра «Саню»?

**13 студзеня ў клубе «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — канцэрт гурта RockerJoker. Гурт праславіўся перад выбарамі сцёбнай песняй «Саня останется с нами», якую афіцыёз нечакана зразумеў літаральна. Панкам знялі кліп на АНТ, песню круцілі на радыё і праспявалі хорам падчас гала-канцэрта праўладнай музычнай акцыі «Беларусь — гэта мы». Лукашэнка плакаў на танцполе. **Пачатак канцэрта ў «Графіці» — а 19-й.**

### Узнёслае і зямное

**15 студзеня ў Малой зале Філармоніі** — новая канцэртная праграма ансамбля салістаў **«Класік-Авангард»** пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава «Узнёслае і зямное». У канцэрце бярэ ўдзел трыа **«Кансананс»**. Прагучаць творы сучасных кампазітараў. Мастацкі кантэкст будуць ствараць жывапісныя працы эстонскага мастака-касміста Алега Высоцкага.

### ТБД — дваццаць гадоў

**21 студзеня ў Тэатры беларускай драматургіі (вул. Крапоткіна, 44)** адбудзецца юбілейны вечар «Нам 20 год». **Пачатак а 19-й.** Працягласць — 2 гадзіны.

## ВЫСТАВЫ

### Нам засталася спадчына…

**12 студзеня ў Палацы мастацтва (вул.Казлова, 3) у 17.30** адбудзецца адкрыццё мастацкай выставы «Нам засталася спадчына…», якая аб’ядноўвае жывапісныя і графічныя працы, створаныя па матэрыялах пленэраў 2010 года, прысвечаных памяці мастакоў XIX стагоддзя: Івана Хруцкага, Яна Дамеля, Яна Лапацінскага. **Выстава працуе з 12 па 30 студзеня, з 11-й да 19-й штодзень, акрамя панядзелка.**

### Каляды ў сядзібе Ваньковічаў

**Філіял Мастацкага музея «Дом Ваньковічаў» (вул.Інтэрнацыянальная, 33а)** прапануе праграму «Каляды ў сядзібе Ваньковічаў». **Экспазіцыя працуе ад серады да нядзелі, ад 10-й да 18-й.**

### Узбагачаючы адно аднаго

**11 студзеня ў Музеі сучаснага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** адбудзецца адкрыццё групавой выставы скульптуры «Узбагачаючы адно аднаго», прымеркаванай да юбілею прафесара Акадэміі мастацтваў Анатоля Арцімовіча. Будуць упершыню выстаўленыя станковыя творы А. Арцімовіча. Разам з творамі майстра будзе прадстаўленая экспазіцыя творчых працаў яго вучняў і калег. **Пачатак а 17-й.**

### Жыццё ў казках

**У Музеі гісторыі кіно (вул.Свярдлова, 4)** працуе персанальная юбілейная выстава эскізаў да анімацыйных фільмаў к/с «Беларусьфільм» розных гадоў «Жыццё ў казках», прымеркаваная да 75-годдзя патрыярха беларускай анімацыі, кінаапаратара Юрыя Мільтнера.

### Моды на Каляды

**У Нацыянальным гістарычным музеі (вул.К.Маркса, 12) да 2 лютага** працуе выстава дызайнерскага адзення. Куратар — Саша Варламаў.

### 12+

**У галерэі «Панарама» Нацыянальнай бібліятэкі** працуе выстава «12+». На выставе прадстаўленыя творы 12 мастакоў. Выбар майстроў невыпадковы, паколькі галоўная мэта экспазіцыі — паказаць разнастайнасць творчых манер і стыляў. Прадстаўлены і розныя жанры: пейзажы (Ягор Батальёнак, Аляксандр Грышкевіч), асацыятыўныя палотны (Аляксандр Забаўчык), міфалагічныя карціны (Фёдар Ястраб, Уладзімір Кожух).

### Вернутыя імгненні. Яўрэі царскай Расіі

**У Гістарычным музеі (вул.Маркса, 12)** працуе выстава «Вернутыя імгненні. Яўрэі царскай Расіі». Фотавыстава знаёміць з работамі вядомых і безыменных фатографаў другой паловы XIX — пачатку XX стст. Сярод іх — работы вядомага фатографа, аматара старажытнасцяў М.Ф.Кусцінскага, прафесійнага фатографа А.В. Сялецкага, цікавага і яркага фатографа, вядомага нумізмата Міхаіла Грэйма і іншых.



## ТЭАТРЫ

**13 студзеня**

**Горкага** — «Ідэальны муж»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Купалаўскі** (Малая сцэна) — «Востраў Сахалін»

**14 студзеня**

**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»
**Горкага** — «Пакінутая жанчына»
**Беларускай драматургіі** — «Сонечка»

**15 студзеня**

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Беларускай драматургіі** — «Чарнобыльская малітва»
**Оперы і балета** — «Жарсці (Рагнеда)»
**Горкага** — «Эдып»

**16 студзеня**

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Оперы і балета** — «Карміна Бурана. Кармэн-сюіта»
**Беларускай драматургіі** — «Чайка»
**Горкага** — «Дзядзькаў сон»

**17 студзеня**

**Музычны** — «Даратэя»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»

**18 студзеня**

**Моладзевы** — «Вясёлы кірмаш»
**Горкага** — «Распуснік»
**Тэатр-студыя кінаактора** — «Вельмі простая гісторыя»
**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»

**19 студзеня**

**Лялек** — «Сіняя птушка»
**Оперы і балета** — «Шапэніяна». «Пахіта». «Трыстан і Ізольда»
**Горкага** — «Уяўны хворы»
**Юнага гледача** — «Апошняя дуэль»
**Тэатр-студыя кінаактора** — «Вельмі простая гісторыя»
**Беларускай драматургіі** — «Жанчыны Бергмана»
**Купалаўскі** — «Хам»

**20 студзеня**

**Оперы і балета** — «Кармэн сюіта». Дывертысмент з балета «Шчаўкунок»
**Лялек** — «Сіняя птушка»
**Моладзевы** — «Позняе каханне»
**Новы** — «Зацюканы апостал»
**Горкага** — «Адзіны спадкаемца»
**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

**21 студзеня**

**Музычны** — «Юнона і Авось»
**Лялек** — «Драй швэстэрн»
**Моладзевы** — «Бег на месцы»
**Горкага** — «Панна і смерць»
**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»
**Тэатр-студыя кінаактора** — «№13»

**22 студзеня**

**Музычны** — «Вясёлая ўдава»
**Лялек** — «Пэпі Доўгаяпанчоха»
**Сучасны мастацкі** — «Над зязюліным гняздом»
**Горкага** — «Эсфір»
**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Тэатр-студыя кінаактора** — «Механічны чалавек»
**Беларускай драматургіі** — «Сублімацыя кахання»
**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»

**23 студзеня**

**Музычны** — «Мая жонка — ілгуння»
**Лялек** — «Васіліса Прыўкрасная»
**Новы** — «Не бойся быць шчаслівым»
**Сучасны мастацкі** — «Канікулы ў Прастаквашыне»
**Горкага** — «Рускія вадэвілі»
**Тэатр-студыя кінаактора** — «Поле бітвы»
**Беларускай драматургіі** — «Мужчыны на мяжы нервовага зрыву»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»

## КІНО

# Зрынуць дыктатара Клу

**Трон: Спадчына** (TRON: Legacy)

ЗША, 2010, каляровы, 3D, 125 хв.

**Рэжысёр:** Джозэф Касінскі

**Жанр:** Кіберфантастыка

**Адзнака:** 4,5 (з 10)




Сэм Флін расследуе таямнічае знікненне свайго бацькі-праграміста і трапляе ў створаны ім віртуальны свет. У гэтым свеце творца загнаны ў падполле, а ўладу захапіў злосны дыктатар Клу, які з дапамогай паслухмяных праграмаў тэрарызуе кібернасельніцтва. Герой вырашае зрынуць тыранію дый вызваліць бацьку.

Задоўга да «Матрыцаў», у 1982 годзе, з’явіўся першы фільм пра кіберпрыгоды ў віртуальнай прасторы — «Трон». Стужка сталася папулярнай у аматараў дзіўных фільмаў, але масавага поспеху не мела. Амаль праз трыццаць гадоў карціна атрымала працяг — з удзелам тых самых акtowards акцёраў. Джэф Брыджэс грае пастарэлага праграміста дый уласную копію — дыктатара Клу, значна маладзейшага за сябе.

Гладыятарскія бойкі чырвона-чорных праграмаў, светлавыя матацыклы і самалёты, бліскучыя паверхні, арнаменты складаюць халаднаватае рэтра-камп’ютарнае відовішча, упрыгожанае закадравай музыкай і акрабатычнай харэаграфіяй Алівіі Уальд.

Затое, калі героі адкрываюць рот, горшых дыялогаў уявіць немагчыма. Але ў Беларусі нават самыя тупыя антыдыктатарскія фразы — як соль на свежыя раны.

**Андрэй Расінскі**

# Горныя лыжы ў Беларусі: дзе танней?

«Наша Ніва» высветліла, дзе можна пакатацца цывілізавана.

Лыжных курортаў у Беларусі два: Сілічы і Лагойск. Сюды едуць не толькі беларусы, але і жыхары суседніх краін.

### Сілічы

Сілічы — месца, адразу скажам, дарагое. Напрыклад, двухмясцовы нумар у мясцовым гатэлі каштуе 242 тысячы за дзень. Калі параўнаць, гэта тыднёвы заробак настаўніка.

Але, напрыклад, чатырохмясцовы нумар (на сям'ю) за дзень абыдзецца танней: 352 тысячы.

Не надта адрозніваецца і кошт за катэдж — выбар на густ госця. У любы з коштаў уваходзіць сняданак у любімай усімі форме — шведскі стол. Можна ўзяць і «поўны пансіён», але цана тады вырасце прыкладна на 50%.

Аздараўленчы тур на тыдзень пацягне на 1 400 000 рублёў.

Што тычыцца непасрэдна лыжаў, то пад'ём на канатнай дарозе будзе каштаваць недзе пяць тысяч, а абанемент на дзень — 50 тысяч, калі дзень не выходны (у выходны — 65).

Коўзанне на «навучальнай» трасе каштуе 10 тысяч за гадзіну ці 40 тысяч за ўвесь дзень. Што трэба адзначыць, дык гэта «начныя тарыфы» — яны ніжэйшыя за дзённыя разы ў два.

Тое самае тычыцца і пракату астатняга: днём лыжы будуць каштаваць 6000 тысяч за гадзіну ці 20 000 за ўвесь дзень (у выходныя — 9000 і 25 000), лыжныя чаравікі — у той жа кошт, а палкі — 10 000 за дзень.

Арганізаваць сабе «дзень лыжніка» ў Сілічах можна, а вось прыехаць туды на тыдзень здолее не кожны.

### Лагойск

«Лагойск» заўжды лічыўся таннейшым за Сілічы. Нумар у мясцовым гатэлі каштуе 150 тысяч за дзень, што значна менш за Сілічы. А яшчэ ў Лагойску існуюць еўрапейскага тыпу домікі-шале, якія каштуюць трошкі даражэй за гатэль. Папулярнасць у іх вялікая. У сярэднім каштуе такі домік 500 000 у выходны дзень.

Кошт лыжаў і астатняга рыштунку амаль такі самы, хаця розніца ў трычатыры тысячы на карысць Лагойска ёсць.

### Закапанае

Калі паглядзець на кошт гарналыжных курортаў Польшчы, высвятляецца, што з'ездзіць на «лыжны» адпачынак у суседнюю краіну будзе ледзьве не танней, чым адпачыць у Беларусі.

Напрыклад, дзевяць дзён у Закапаным разам з экскурсіямі, гатэлем, трансферам і сняданкам каштуе каля 340 еўра. Па цане мала розніцца ад поўнага пансіёна ў Сілічах. Аднак за праезд цягніком да Варшавы прыйдзецца даплаціць, дый усялякая драбяза кшталту пад'ёмніка будзе даражэйшай.

Арандаваць лыжы з усім камплектам неабходнага на дзень у Закапаным каштуе 5 еўра. А калі браць на некалькі дзён — атрымліваецца зніжка на 30 працэнтаў.

### Бірштонас

У Літве на такім курорце, як Бірштонас, дзень у гатэлі (ад трох да чатырох зорак) абыходзіцца мінімум у 35 еўра, што танней, чым у Беларусі. У гэтай прапанове таксама ўключана амаль усё, акрамя ўласна лыжаў, пры гэтым арэнда таксама будзе ў межах тых жа пяці еўра, што і ў Сілічах.

**Юрась Ускоў**


PHOTO: BYMEDIA.NET

# Джолі і Дэп перамаглі беларускую мафію

Трылер «Турыст» ідзе па беларускім следзе.

У пракат выйшаў трылер «Турыст», дзе галоўныя героі, ролі якіх выконваюць Анжаліна Джолі і Джоні Дэп, трапляюць у калатнечу з мафіёзі, аточаным «беларускамоўнымі» наймітамі.

Ёсць і іншыя фільмы, паглядзеўшы якія, замежныя гледачы могуць падумаць, што Беларусь — радзіма высакакласных забойцаў, краіна, адкрытая для таемных сустрэч міжнародных злачынных груповак і наогул яна — Кракозія.



### «Турыст»

Гэта рымейк французскага трылера 2005 года з Сафі Марсо «Няўлоўны». У стужцы гаворка ідзе пра амерыканскага турыста (Дэп), што сустракае ў цягніку загадкавую прыгажуню (Джолі). Яна ўцягвае яго ў вялікія непрыемнасці са шпіёнскімі змовамі, спецслужбамі, пагонямі і перастрэлкамі. Экшну надае каларыт атачэнне галоўнага злыдня — англійскага мафіёзі-мільярдэра Рэджынальда Шо.

Найміты-забойцы, якія на яго працуюць, на працягу ўсяго фільма гавораць па-беларуску: «Зразумеў», «Пайшоў ты»...

Пацешна, бо ў дыялогах герояў усё-такі згадваецца, што Шо «заўсёды трымае пры сабе» расійцаў. Пры гэтым ён і сам адночы пераходзіць на мову.

Убачыць усё гэта на ўласныя вочы, а таксама пачуць беларускую ў галівудскім трылеры любы ахвотны можа ў большасці мінскіх кінатэатраў. Увага! У пірацкіх запісах беларускага маўлення вы не пачуеце.

### «Шэрлак»

Серыял BBC, другога сезона якога з нецярплівасцю чакаюць фанаты з усяго свету, таксама вызначыўся неадназначнай згадкай пра Беларусь. Для пачатку адзначым, што гэта гісторыя апісвае працоўныя будні сучасных Шэрлака Холмса і доктара Ватсана ў не менш сучасным Лондане. Іх расследаванні звязаныя з таямнічымі графіці, трупамі інвестбанкіраў, SMS з дзіўнымі подпісамі, Марыярці ў Skype...

У першым сезоне ўсяго тры серыі. Апошняя пачынаецца з тытраў: «Minsk, Belarus».

Пасля з'яўляецца кадр: Шэрлак Холмс знаходзіцца ў турме, дзе размаўляе з суайчыннікам, які прыбыў у сталіцу Беларусі з сяброўкай, а пасля сцэны рэўнасці ў бары забіў яе ў нумары гатэля.

Шэрлак за справу не ўзяўся і вярнуўся ў Лондан, расчараваны, што на яго шляху не трапляецца яркіх злачынстваў.

— А як жа справа ў Расіі? — цікавіцца доктар Ватсан.

— У Беларусі, — удакладняе Холмс. — Звычайнае бытавое забойства. Не вартае маёй увагі.

Адзначым, што многія крытыкі ўжо назвалі «Шэрлака» найлепшым серыялам 2010 года.

### «Шпіёнка»

Амерыканскі тэлесерыял з Джэніфер Гарнер у ролі Сідні Брыстаў, падвойнага агента СД-6 і ЦРУ, якая выконвае заданні ў розных частках свету, кожны раз у новым маляўнічым вобразе.

У пятым сезоне Сідні і яе муж Вон займаюцца расследаваннем, звязаным з сакрэтнай арганізацыяй, вядомай пад назвай «Прарок Пяць». У таемную супольнасць уваходзяць высокапастаўленыя асобы з усяго свету, якія дзеля дасягнення сваёй галоўнай мэты — неўміручасці — ідуць на забойствы, выкраданні, тэракты.

У адной з серый усе удзельнікі «Прарока Пяць» збіраюцца на таемнай сустрэчы ў адным з пасольстваў, размешчаных у сталіцы Беларусі. Малюначак суправаджаюць тытры: «Minsk».

### «Тэрмінал»

Ну і нарэшце «Тэрмінал» — галоўная галівудская прэм'ера 2004 года ад Стывена Спілберга з Томам Хэнксам у галоўнай ролі. Па сюжэце грамадзянін нейкай усходнееўрапейскай краіны пад назвай Кракозія прыязджае ў Нью-Ёрк і проста ў аэрапорце даведваецца, што ў яго краіне адбылася рэвалюцыя і ўсе адносіны з ёй перапыненыя. А галоўнае — яго дакументы несапраўдныя. Ні адправіць назад, ні выпусціць з аэрапорта яго не могуць.

Пільныя гледачы неўзабаве разгледзелі: дакументы ў героя Хэнкса беларускія! У яго ў руках — правы кіроўцы з надпісам: «Вадзіцельскае пасведчанне», месца выдачы — горад Гомель...

Гэта не поўны пералік згадак Беларусі ў заходняй кінапрадукцыі. Можна ўспомніць «Пароль: рыба-меч», дзе герой Джона Траволты казаў, што ў любы момант можа купіць у Мінску ядзерныя боегалоўкі. Ці серыял «Спецназ», у адной з частак якога нямецкія байцы спецпадраздзялення ўступілі ў сутычку з беларускім АМАПам. Ці яшчэ што-небудзь.

Слава, вядома, — справа добрая, але злёгку напружвае, што ў пераважнай большасці выпадкаў наша краіна паўстае ў, мякка кажучы, не самым выгадным святле.

Зрэшты, чаго яшчэ чакаць, калі за Беларуссю замацавалася рэпутацыя «апошняй дыктатуры Еўропы», якую (рэпутацыю) улады ўзмоцнена падтрымліваюць.

**Алена Якжык, «Салідарнасць»**

## Сапраўдная беларуская кухня

### Рыба-фіш для найлепшых сяброў

Беларусь працягвае сустракаць герояў Плошчы.

Прапаную вам сёння адну з самых смачных страваў, якую беларуская кухня запазычыла з яўрэйскай, — фаршыраванага карпа па праверaным мінскім рэцэпце. Гатаваць яго не проста і не хутка, але вынік будзе варты. Госці запомняць гэтую страву надоўга.

2 кг чышчанага (без вантробаў і лускі) карпа, дзве цыбуліны, 1 луста белай несалодкай булкі, адно яйка, чорны молаты перац, соль, цукар.

**Для варкі карпа:** 2 л халоднай вады, 2 морквы, 2 цыбулі, 5—6 зярнятаў перцу гарошкам чорнага, 2—3 зярняці перцу духмянага, соль, цукар.

**Пры падачы:** хрэн або гарчыца.

Як для фаршу, так і для варкі рыбы цукар трэба браць у палавінным памеры ад колькасці солі.

Булку намачыць.

Карпаў ачысціць ад лускі (лепш браць люстраных карпаў). Выдаліць вантробы, не робячы прадольнага разрэзу. Адрэзаць галовы, выняць з іх жабры і вочы.

Ачышчаныя тушкі карпа парэзаць кавалачкамі таўшчынёй 4—6 см.

Вострым нажом выбраць мякаць каля костак, не пашкодзячы скуру.

Гэтую мякаць разам з цыбуляй і вымачанай булкай 2 разы прапусціць праз мясарубку, дадаць перац, соль, цукар, узбітае яйка (можна ўзбіваць відэльцам або міксерам) і ваду, у якой вымочвалася булка. Усё добра перамяшаць і ўзбіць (відэльцам або міксерам).

Запоўніць прыгатаваным фаршам кавалкі рыбы: спачатку кавалкі тушкі, затым галовы.

У шырокі рондаль (каструлю) пакласці моркву, цыбулю колцамі, трохі цыбульнага шалупіння, соль, цукар, перац. Наліць 2 л халоднай вады (вады трэба столькі, колькі кілаграмаў рыбы) і паставіць на агонь. Пасля таго як закіпіць вада, пакласці на дно рыбныя галовы, а затым усю астатнюю нафаршыраваную рыбу.

Варыць на вялікім агні ў адкрытым рондалі 1—1,5 гадзіны. За 20 хвілін да канца варкі ўліць дзве—тры сталовыя лыжкі халоднай сырой вады.

Пакінуць прыгатаваную рыбу ў гэтым рондалі на 6—8 гадзін.

Затым раскласці кавалкі рыбы на блюды, заліць працэджанай вадкасцю ад варкі, ахаладзіць у лядоўні да ўтварэння жале.

Прыварцы рыбы можна пакласці некалькі скрылікаў чырвонага бурака.

Падаць фаршыраваную рыбу з хрэнам ці гарчыцай.

**НБ**



## Кемікі



1) Якія лікі ад 1 да 1000 дзеляцца на 3?

2) Якія два лікі даюць аднолькавы адказ, калі іх перамножаць або складуць?

**Сабрала Валянціна Карнялюк.**

**Адказы глядзі на старонцы 16.**




Калядкі ў вёсцы Карпавічы Вілейскага раёна.




Кіраўнік Брэсцкай вобласці прапануе паставіць Лукашэнку помнік пры жыцці. Раней Канстанцін Сумар ужо адзначыўся, сказаўшы Лукашэнку, што той «вышэйшы за Бога».




Заварушыліся. Літоўскія фатографы зафіксавалі, як 5 студзеня пасол Беларусі ў Літве Уладзімір Дражын і віцэ-міністр замежных справаў Валерый Варанецкі ў суправаджэнні пасла Літвы ў Беларусі выходзяць з Адміністрацыі літоўскага прэзідэнта. У парадку дня Далі Грыбаўскайце сустрэча з імі запланаваная не была. Пазней МЗС Беларусі паведаміў, што Варанецкі абмяркоўваў «пытанні ўзаемадзеяння з АБСЕ». 8 студзеня стала вядома, што паслы ЕС ініцыявалі працэдуру аднаўлення санкцый супраць лукашэнкаўцаў. У панядзелак у Брусэль тэрмінова вылецеў міністр замежных справаў Беларусі Сяргей Мартынаў. Старонка 3.




У адлігу варта глядзець не толькі пад ногі, але і ўгару.

## Анекдоты

* * *

З пратакола: «Абвінавачаны спрабаваў зрынуць законную ўладу ў краіне шляхам выстаўлення сваёй кандыдатуры на прэзідэнцкіх выбарах».

* * *

Новы надпіс ад Міністэрства аховы здароўя на пачку цыгарэтаў: «Курэнне заб'е цябе да чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску».

* * *

— У мяне жонка на цікавую дыету села: не есць пасля шостай гадзіны!
— І як яна, вытрымлівае?
— Звычайна гадзіны да сёмай.

* * *

«— Бедны ты мой тата! Цябе ўвязнілі, разам са зладзеямі і бандытамі!
— Што ты, сыне! У вязніцы поўна-поўна сумленных людзей!
— Дык за што ж яны сядзяць? Што дрэннага яны зрабілі?
— Анічога, сыне. За тое іх і арыштавалі. Вязніцы пабудаваныя для тых, хто крадзе і забівае, але ў прынца Лімона ўсё наадварот. Злодзеі і забойцы — у ягоным палацы, а ў вязніцы сядзяць сумленныя грамадзяне...»
З: Джані Радары, «Прыгоды Чыпаліна»

* * *

Аб'ява: «Хто знайшоў бульгэр'ера з ключом на шыі — выпусціце мяне з шафы!»

* * *

У вайне Індыі з Кітаем пераможа тая краіна, якая хутчэй здасца ў палон.

* * *

Я не цікаўная, але калі чалавек пастаянна завешвае замочную адтуліну, пагадзіцеся, гэта падазрона.

## «НН» сто гадоў з вамі

Хто працуе пільна, у таго ў хаце Вільня. Гэтая беларуская прыказка паказвае, што не трэба кідаць сваёй вёскі, хаты і зямлі дзеля таго, што бытцам у Вільні або ў другім градзе жывецца лепей. У дастатку жывуць усе людзі з цвёрдай верай у сваю працу.

**«НН». №2.1911**

1 студзеня ўступіў у сілу новы Крымінальны кодэкс, змяніўшы стары, прыняты яшчэ ў 1960-м. Новы кодэкс будзе розніцца ад папярэдняга большай гуманнасцю. Савецкае крымінальнае заканадаўства пачыналася пералікам дзяржаўных злачынстваў. Новы Кодэкс адкрываецца раздзелам, прысвечаным злачынствам супраць чалавека.

**«НН». №2. 2001**

**Адказы да старонкі 15:**

1) На 3 дзеляцца тыя лікі, сума лічбаў якіх дзеліцца на 3.
841 — сума лічбаў 13, значыць, лік 841 не дзеліцца на 3.
756 — сума лічбаў 18, значыць, лік 756 дзеліцца на 3.
2) 2x2+4, 2+2=4

Наша Ніва
незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 6630.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 11.01.2011.
Замова № 151.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614